# СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫЯ ТЭХНІКУМЫ!

## Адказвайце канкрэтнымі справамі на выклік па пашырэньню часоп. „Шляхі Калектывізацыі" студэнтаў Марына-Горскага сельскагаспадарчага тэхнікуму!

### Уключаемся і выклікаем

Заслухаўшы інфармацыю аб конкурсе, які аб'яўлены рэдакцыяй часопісі „Шляхі Калектывізацыі" на лепшае правядзеньне працы па распаўсюджваньні часопісі, нарада ўпаўнаважаных па пашырэньні перыядычнага друку ў Марына-Горскім сельскагаспадарчым тэхнікуме, разам з рэдкалегіямі цэхавых насьценгазэт і студкораўскім актывам, надаючы вялікае значэньне часопісі „Шляхі Калектывізацыі" ў справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, у справе падрыхтоўкі калгасных кадраў лічыць, што часопіс павінны выпісваць і чытаць усе калгасьнікі, рабочыя, саўгасаў, МТС, бедн'які і серадн'які-аднаасобнікі, а таксама часопісь павінны чытаць студэнты сельскагаспадарчых тэхнікумаў БССР.

Выходзячы з гэтага, рабселькоры Марына-Горскага тэхнікуму ўключаюцца ў конкурс па пашырэньню часопісі.

Зараз ужо рабселькоры тэхнікуму дабіліся таго, што ў тэхнікуме завербавана 55 падпісчыкаў. У гэтым ліку: гадавых падпісчыкаў—2, паўгадавых—45, чатырохмесячных—2, трохмесячных—6.

Ня спыняючыся на гэтых дасягненьнях мы—рабселькоры Марына-Горскага сельскагаспадарчага тэхнікуму абавязуемся і ў далейшым весьці актыўную работу па пашырэньні часопісі, а таксама актыўна ўдзельнічаць шляхам дасылкі матар'ялу, і выклікаем пасьледваць нашаму прыкладу ўсе сельскагаспадарчыя тэхнікумы БССР, у прыватнасьці: Стара-Барысаўскі, Смалянскі, Курасоўскі, Нова-Беліцкі і іншыя сельскагаспадарчыя тэхнікумы БССР.

Чакаем адказу праз часопісь „Шляхі Калектывізацыі".

**Рэдактар агульна-тэхнікумаўскай насьценнай газэты „Наш Шлях"**
**Ю. ПРАТАСЕНЯ.**

**Старшыня рабселькораўскага гуртка МАЛЯЎКА С.**

**Упаўнаважаны тэхнікума па распаўсюджваньні друку**
**В. ІВАШЫНА.**

## Кожны калгасьнік, рабочы саўгасу, МТС, бядняк і серадняк аднаасобнік павінны выпісваць і чытаць часопісь „Шляхі Калектывізацыі"

### Хто возьме пяршынство ў конкурсе?

### Барысаўскаму, Крупскаму і Смалявіцкаму Райкалгассаюзам

Надаючы вялікае значэньне часопісі „Шляхі Калектывізацыі" ў справе сацыялістычнай рэканструкцыі с-гаспадаркі, Аршанскі Райкалгассаюз уключыўся ў конкурс па пашырэньню часопісі сярод калгасьнікаў, паставіўшы справу так, што на сёняшні дзень усе калгасы раёну ўжо выпісалі (кожны калгас выпісаў на поўгода) часопісь „Шляхі Калектывізацыі"—271 экзэмпляр.

Выклікаем пасьледваць нашаму прыкладу **Барысаўскі, Крупскі і Смалявіцкі** Райкалгассаюзы.

Просім паведаміць праз часопісь „Шляхі Калектывізацыі", даслаўшы копію паведамленьня нашаму Райкалгассаюзу.

**Старшыня Райкалгассаюзу**
**Я. В. КАМЕДАЎ.**
**Сакратар А. МІХНЕВІЧ.**

*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

8 КРАСАВІК 1932

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

## ЗЬМЕСТ



# Ліквідаваць прарывы на хаду

## За поўнае абсемяненьне палёў, вызначаных па пляну, за якасьць і скарачэньне тэрмінаў сяўбы

Усе раёны БССР уступілі ў сяўбу. У радзе раёнаў перадавыя калгасы закончылі ўжо сяўбу раньніх культур. Аднак, генэральная праверка падрыхтаванасьці да веснавой сяўбы выявіла рад буйнейшых прарываў у правядзеньні гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі.

Пасеўныя пляны ў некаторых раёнах і зараз яшчэ не давезены да шырокіх калгасных мас. Партыйныя ячэйкі ў гэтых раёнах мала зрабілі для таго, каб калгасьнікі і бедныкі і серадзякі—аднаасобнікі зразумелі вялізарнае гаспадарча-палітычнае значэньне выкананьня плянаў веснавой сяўбы. У радзе месц партячэйкі ня сумелі накіраваць актыўнасьць калгасьнікаў на хутчэйшую засыпку насенных фондаў збожжавых і асабліва тэхнічных і кармовых культур. Вельмі слаба ўжываецца міжраённая і міжкалгасная ўзаемадапамога ў стварэньні насенфондаў.

З прычыны гэтага на 10 красавіка плян засыпкі насенфондаў збожжавых культур па БССР выканан на 76,9 проц. і па бульбе—на 79,6 проц. Яшчэ горш абстаіць справа з засыпкай насенфондаў па тэхнічных культурах і сеяных травах. Напрыклад, па тэхкультурах (лён, каноплі) плян выканан усяго толькі на 49,6 проц., па аднагадовых сеяных травах—на 46,4 проц., а па шматгадовых—на 31,2 проц. Асабліва ганебна адстаюць па засыпцы насенных фондаў Петрыкаўскі, Нараўлянскі, Дрысенскі, Лельчыцкі і Парыцкі раёны.

Толькі апартуніст можа спасылацца ў невыкананьні плянаў засыпкі насенфондаў на аб'ектыўныя прычыны. Мы ў БССР маем усе магчымасьці поўнасьцю забясьпечыць сябе насенным матар'ялам з сваіх унутраных рэсурсаў і мы павінны гэта зрабіць. Прычына недавыкананьня плянаў засыпкі насенных фондаў захавана ў тым, што некаторая частка раённых арганізацый не ўзяла яшчэ бальшавіцкіх тэмпаў у правядзеньні веснавой пасеўнай кампаніі не мабілізавала як належыць калгасьнікаў і ўсё працоўнае сялянства на выкананьне плянаў гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі. Прычына захавана ў тым, што частка раённых арганізацый не ажыцьцявіла яшчэ ўказаньняў правадыра нашай партыі тав. Сталіна аб перабудове работы.

Партыйныя арганізацыі павінны зараз-жа мабілізаваць масы калгасьнікаў на поўнае выкананьне плянаў засыпкі насенных фондаў. Трэба рашуча змагацца з тымі, хто спасылаецца на аб'ектыўныя прычыны і гэтым самым дапамагае кулаку сарваць нашы пасеўныя пляны. **„Абсемяненьне намечанай плошчы павінна поўнасьцю праходзіць за лік мабілізацыі ўнутраных насенных рэсурсаў. Неабходна рашуча змагацца з спажывецкімі настроямі, якія выяўляюцца ў імкненьні зьменшыць пасевы вядучых культур за лік спажывецкіх культур. Пленум расцэньвае размовы аб нерэальнасьці пасеўных плянаў, якія ёсьць у асобных раёнах, як простую барацьбу супроць плянаў і нежаданьне мабілізаваць масы на іх выкананьне“** (з пастановы пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

Цэнтр цяжару ўсёй работы ў калгасах трэба перанесьці на правільную арганізацыю працы, на дакладную расстаноўку рабочай сілы з тым, каб з найбольшым посьпехам правесьці веснавую сяўбу.

Трэба памятаць, што для таго, каб хутчэй дабіцца арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў у іх сучаснай арцельнай стадыі разьвіцьця, у найкарацейшы тэрмін выканаць пляны сяўбы, атрымаць высокі ўраджай,—трэба правільна арганізаваць рабочую сілу ў калгасах. Правільная арганізацыя рабочай сілы ў калгасах, узьняцьцё прадукцыйнасьці працы калгасьніка, шырокае разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва—задача сёнешняга дня.

Правільная арганізацыя рабочай сілы ў калгасах—гэта тое зьвяно, за якое трэба ўхапіцца, каб выцягнуць увесь ланцуг арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, для таго, каб найбольш пасьпяхова правесьці веснавую пасеўную кампанію. Сталая вытворчая брыгада—ключ да вырашэньня гэтай задачы. Толькі сталая вытворчая брыгада, пры ўстанаўленьні ў кожнай брыгадзе рознай ацэнкі працадня ў залежнасьці ад выхаду прадукцыі,—можа ўзьняць прадукцыйнасьць працы, павысіць ураджайнасьць калгасных палёў. Таму, партарганізацыі, камсамол і калгасная сыстэма павінны зьвярнуць максымум увагі на хутчэйшае ажыцьцяўленьне пастановы ЦК УсеКП(б) ад 4 лютага і ЦК КП(б)Б ад 26 лютага „аб чарговых мерапрыемствах па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў“. Аднак і на сёнешні дзень, мы маем яшчэ рад калгасаў, у якіх не арганізаваны сталыя вытворчыя брыгады. На 15 красавіка па 67 раёнах БССР былі арганізаваны брыгады ўсяго толькі ў 4163 калгасах, альбо 48,3 проц. да агульнай колькасьці калгасаў у гэтых раёнах.

XVII канфэрэнцыя УсеКП(б) высунула цэнтральнай задачай у галіне сельскагаспадарчай вытворчасьці на гэты год і бліжэйшае пяцігодзьдзе—барацьбу за высокі ўраджай. Важнейшымі ўмовамі пасьпяховай барацьбы за высокі ўраджай сацыялістычных палёў—гэта высокая якасьць апрацоўкі глебы, унясеньне ўгнаеньня, пасеў дабраякасным насеньнем і максымальна скарочаныя тэрміны сяўбы. Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б завастрыў **„асаблівую ўвагу ўсіх партарганізацый на абавязковае правядзеньне раньняй сяўбы, якая павінна быць скончана ў максымальна скарочаны тэрмін (на працягу мая месяца), што мае вельмі важнае значэньне ў справе барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці“.** Мабілізаваць масы калгасьнікаў на барацьбу за скарачэньне тэрміну сяўбы! Трэба памятаць, што раньні пасеў забясьпечвае раньнюю ўборку ўраджаю, большы і лепшы выхад сельскагаспадарчай прадукцыі і гэтым самым забясьпечвае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, паляпшае матар'яльнае становішча калгасьнікаў.

Распачаўшаяся веснавая сяўба патрабуе да сябе выключнай увагі. Трэба зараз-жа, на хаду, ліквідаваць маючыя прарывы на пасеўным фронце. Партыйныя арганізацыі, апіраючыся на калгасны актыў, павінны мабілізаваць масы калгасьнікаў і беднякоў і серадьнякоў—аднаасобнікаў на пасьпяховае правядзеньне плянаў веснавой пасеўнай кампаніі, якая мае выключнае гаспадарча-палітычнае значэньне ў заключным годзе першай пяцігодкі.

Клясавы вораг—кулак заядла выступае супроць усіх мерапрыемстваў партыі і ўлады, на кожным кроку стараецца пашкодзіць арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў і гэтым самым падарваць наша пасьпяховае калгаснае будаўніцтва. Кулак накіроўвае ўсе свае прыёмы на зрыў плянаў веснавой пасеўнай кампаніі. Задача партыйных арганізацый і калгасьнікаў—павысіць клясавую пільнасьць. У няпрымірымай барацьбе з клясавым ворагам—кулаком і яго агентамі—правымі і „левымі“ апартуністамі—забясьпечым пасьпяховае выкананьне і перавыкананьне плянаў веснавой сяўбы.

# Засеяць палі ў максымальна кароткі тэрмін

(*Быхаўскі раён*)

## Калгас „Рэвалюцыя“ на аванпастох трэцяй бальшавіцкай

Калгас „Рэвалюцыя“ вышаў у поле ў поўнай гатоўнасьці, дзякуючы таму, што своечасова была разгорнута вялікая работа па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы.

Аб'яўлены 15-дзёньнік генэральнай праверкі падрыхтаванасьці да сяўбы яшчэ больш узьняў энтузіязм калгасьнікаў на барацьбу за пасьпяховае выкананьне плянаў 3-й бальшавіцкай вясны. Калгасьнікі расстаўлены на вытворчых вучастках.

Калгас „Рэвалюцыя“ заняў у раёне перадавыя пазыцыі на фронце веснавой сяўбы. Аб гэтым—красамоўна гавораць лічбы і факты. У калгасе своечасова і поўнасьцю засыпаны насенныя і страхавыя фонды. Праведзена вялікая работа па распаўсюджаньні насеннай пазыкі. Так, праз насенную пазыку сабрана 12,6 *цнт* бульбы, 2,2 *цнт* аўса і шмат іншых культур. Такая работа па падрыхтоўцы да сяўбы дала магчымасьць калгасу „Рэвалюцыя“ аказаць вялікую дапамогу насеньнем суседнім калгасам. Напрыклад, „Шлях Леніна“, Фрунзэ пазычана па 8 *цнт* ячменю, а таксама гэтыя калгасы поўнасьцю забясьпечаны насеннымі буракамі і высадкамі з калгасу „Рэвалюцыя“.

Калгас „Рэвалюцыя“ закончыў работу па арганізацыі сталых брыгад. Створаны 4 сталыя брыгады: за кожнай брыгадай замацован інвэнтар і пэўныя вучасткі зямлі, цягавая сіла. Рабочая жывёла поўнасьцю забясьпечана фуражом. Фуражны фонд складаецца з 40 *цнт* сена і 16 *цнт* аўса, ёсьць таксама і салома.

Пасеўная плошча павялічана супроць плянавага заданьня раёну. Так, ячменю было дадзена калгасу „Рэвалюцыя“ засеяць 5 *га*, а калгасьнікі высунулі сустрэчны плян у 15 *га*, лёну засеяць 5 *га*, а высунута сустрэчным плянам 7 *га*, сілосных культур дадзена 6 *га*, а прынята 9 *га*, бульбы—41 *га*, а прынята сустрэчным плянам—43 *га*. Сустрэчныя пляны высунуты і па астатніх культурах.

Па падрыхтоўцы кадраў калгас „Рэвалюцыя“ таксама ідзе першым у раёне. Падрыхтаваны 2 трактарысты, 1 садавод і палявод.

Не засталося па-за ўвагай калгасу і адносна ўвядзеньня правільнага севазвароту. Калгасьнікам добра растлумачан прынцып севазвароту, для чаго нам севазвароты патрэбны. Зараз па выпрацоўцы севазваротаў працуе штодзенна аграном.

У калгасе ёсьць і недахопы. Горш абстаіць справа з штучным угнаеньнем. Акрамя таго, што сабрана каля 32 *цнт* попелу, больш нічога ня зроблена па

набыцьці штучных угнаеньняў. Калгас яшчэ і зараз ня ведае, дзе і колькі патрэбна ўзяць штучных угнаеньняў. Гною вывезена ня больш 5 проц. ад усяе колькасьці, што мае калгас. Старшыня калгасу т. Новікаў тут спасылаецца на аб'ектыўныя ўмовы, „апраўдвае“ нявывазку гною тым, што „людзі былі заняты вывазкаю будаўнічых матар'ялаў“.

## Ліквідаваць прарывы з насеньнем

Калгас „Шлях Леніна“ зусім па нядбайнаму аднёсься да ссыпкі насенных фондаў. І тое, што не хапае насеньня па многіх культурах (вікі—на 5 *га*, лубіну—на 4 *га*, канапель на 1,6 *га* і інш.), старшыня калгасу тлумачыць тым, што „калгас ня так даўно арганізаваўся—у сярэдзіне 1931 году“.

Іншыя работы па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы ў калгасе праведзены. Складзены сталыя брыгады. За кожнай брыгадай замацаван неабходны інвэнтар, цягавая сіла, вучасткі зямлі. Увесь сельскагаспадарчы інвэнтар адрамантаван поўнасьцю. Складзены фуражныя фонды: 16 *цнт* сена, і 12 *цнт* аўса. Але гэтых фондаў калгасу далёка недастаткова.

Калгас „Шлях Леніна“ вышаў ужо ў поле. Аднак, 15-дзёньнік генэральнай праверкі падрыхтаванасьці да сяўбы працягнут яшчэ на 10 дзён. Гэтыя дні калгасам „Шлях Леніна“ павінны быць пераўтвораны ў дні бальшавіцкай барацьбы за насеньне з тым, каб кожны вучастак зямлі, вызначачы па пляне, быў ва што-б там ні стала засеян.

## Калгас імя Фрунзэ не падрыхтаваўся да сяўбы

Калгас імя Фрунзэ распачаў палявыя работы непадрыхтаваным. Па віне кіраўніцтва, некаторых сяброў праўленьня калгасу ў тым ліку і самога старшыні калгасу Я. Кілеса,—вясна застала калгас непадрыхтаваным. Шмат не хапае насеньня. Так, аўса нехапае 20 *цнт*, ячменю—2 з паловаю *цнт*, грэчкі—5 *цнт*, канюшыны зусім няма, а патрэбна 13,8 *цнт*.

Усё гэта тлумачыцца тым, што праўленьне калгасу імя Фрунзэ нядбайна аднеслася да падрыхтоўкі да сяўбы. У выніку апартуністычнага кіраўніцтва з боку праўленьня калгасу, не мабілізаваны масы калгасьнікаў на барацьбу за насеньне.

Наколькі апартуністычна аднёсься да сяўбы старшыня калгасу Я. Кілес відаць хоць-бы з яго „тлумачэньня“ адносна недахопу такой гароднай культуры як цыбулі.

— Цыбулі нідзе немагчыма дастаць,—кажа ён.

Калі-ж брыгада часопісі „Шляхі калектывізацыі“, якая прысутнічала на калгасным сходзе, запытала ў жанчын, ці магчыма зрабіць пазыку на цыбулю сярод калгасьнікаў, жанчыны ўсе, як адна адказалі:

— Можна, засадзім грады сваёю цыбуляй.

Па арганізацыі сталых вытворчых брыгад у калгасе нічога ня зроблена. У выніку гэтага—збруя, сельскагаспадарчы інвэнтар і цягавая сіла ня маюць свайго поўнага гаспадара, пануе абязьлічка. Зямля на вучасткі не разьбіта. Кілес заяўляе:

— Выйдзем у поле і тады ўбачым каго і дзе паставіць.

Член праўленьня калгасу, ён-жа і загадчык гаспадарчай часткай у калгасе, Цімошчанка, агітуе калгасьнікаў за зьмяншэньне пасеўных плошчаў, вызначаных раёнам.

Трэба нанесьці рашучы і бязьлітасны ўдар па зрыўшчыках пляну веснавой сяўбы ў калгасе імя Фрунзэ. Райкалгассаюз павінен прыняць усе захады да таго, каб ніводнага кавалка зямлі не засталося незасеяным. Першыя дні пачатку палявых работ павінны быць пераўтвораны ў дні штодзеннай бальшавіцкай барацьбы за посьпехі трэцяй бальшавіцкай вясны.

Брыгада часопісі „Шляхі калектывізацыі“,
Быхаўскай РКК КП(б)Б, РК ЛКСМБ, рэдакцыі раённай газэты „Маяк камуны“:
**Т. Алесін, Ш. Кілес, Б. Петравіцкая,**
**С. Рыбкін, В. Дуброўскі.**



Ударная брыгада калгасу „На варце“, Крычаўскага раёну сартыруе насеньне.

**Абсемяненьне намечанай плошчы павінна поўнасьцю праходзіць за лік мабілізацыі ўнутраных насенных рэсурсаў**

# МНОЖЫЦЬ ДАСЯГНЕНЬНІ

*(Чэрвенскі раён)*

Калгасам „Кастрычнік“ вызначана па пляне засеяць у гэту весну 442 *га* яравых і кармовых культур. У калгасе прадугледжана па пляне засеяць 370 *га* кармовымі культурамі з тым, каб поўнасьцю забясьпечыць кармамі сьвінагадоўчую племянную фэрму і астатнюю калгасную жывёлу.

У калгасе добра пастаўлена масавая работа. Прапрацаваны пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб чарговых мерапрыемствах па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў, пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б Б аб прымусовым аграмаджаньні жывёлы.

Насенны і страхавы фонды ў калгасе на 23 сакавіка былі поўнасьцю засыпаны і ачышчаны. Складзен фінансава-вытворчы плян. Поўнасьцю адрамантаван сельскагаспадарчы інвэнтар, збруя і інш.

Галоўная задача паляводзтва калгасу „Кастрычнік“—гэта вырашыць праблему па забясьпечаньні кармамі сьвінагадоўчую фэрму і астатнюю калгасную жывёлу. У адпаведнасьці з гэтым будуецца і севазварот. Складзена 6 сталых вытворчых брыгад: 2 брыгады па паляводзтву, 1 для работы на СТФ, 1 па доглядзе буйнай рагатай жывёлы, 1 для работы ў майстэрні і 1 брыгада камбінаваная.

1-я брыгада атрымала заданьне: засеяць 122 *га* з якіх: 33 *га* аўса, 28 *га* ячменю, 24 *га* гароху і вікі, 5 *га* сэрадэлі, 3 *га* грэчкі і 25 *га* лубіну. Для выкананьня гэтай праграмы брыгада складзена з 20 мужчын, 29 жанчын і 9 падлеткаў і атрымала 23 кані з неабходным інвэнтаром, збруяй і г. д. Коні гэтыя даглядаюцца конюхам, спэцыяльна выдзеленым з гэтай брыгады.

Да брыгады ўжо давздзена, на якой плошчы, якую культуру сеяць. Значыць брыгада ўжо поўнасьцю ведае, колькі ёй трэба чаго засеяць і дзе, ведае ўсю сваю надыходзячую работу. Гэтая-ж брыгада павінна давесьці апрацоўку поля, вызначанага ёй, аж да ссыпкі насеньня ў сьвіран.

Другая паляводчая брыгада атрымала засеяць 320 *га*. Трэцяя брыгада прымацавана да сьвінагадоўчай фэрмы. Яна поўнасьцю адказвае за фэрму, па сапраўднаму змагаецца за поўны і дабраякасны прыплод, за пашырэньне фэрмы.

Для работы ў майстэрні складзена брыгада з 5 чалавек: 2 кавалі і 3 сталяры. Гэтая брыгада поўнасьцю адказвае за спраўнасьць усяго сельскагаспадарчага інвэнтару.

Камбінаваная брыгада служыць для ўнутранага абслугоўваньня, для выкананьня некаторых сэзонных работ.

Калгас „Кастрычнік“ у справе падрыхтоўкі да сяўбы, у справе арганізацыі працы зьяўляецца ўзорным для астатніх калгасаў Чэрвеншчыны.

І. П.

# Максымум увагі выкананьню плянаў сяўбы

*(Любаньскі раён)*

Падрыхтоўка да веснавой сяўбы па раёне разгорнута на аснове выкананьня дырэктыў партыі і ўраду. Раённыя арганізацыі сваячасова распачалі падрыхтоўку да рамонту сельскагаспадарчага інвэнтару і машын. На сёньня ўсе машыны і сельскагаспадарчы інвэнтар ужо адрамантаваны і гатовы да практычнага прымяненьня іх. Не адрамантаваны толькі павозкі, але ўдарная работа калгасных партыйных і камсамольскіх ячэек, пры дапамозе і шырокім удзеле саміх калгасьнікаў і гэты прарыў будзе ліквідаваны. Толькі райсельснабу і райкалгассаюзу трэба паклапаціцца больш сур'ёзна аб дасылцы неабходнага матар'ялу для данага рамонту.



Конюх кітайскага нацыянальнага калгасу т. Ві-дві-на, прэміяваны за добры догляд коняй (Віцебск р.).

Поруч са значнымі дасягненьнямі ў справе правядзеньня рамонту сельскагаспадарчага інвэнтару і машын, калгасы раёну маюць яшчэ большыя дасягненьні ў ссыпцы насенных і страхавых фондаў. Праведзеная праверка становішча наяўнасьці насеньня і страхавога фонду паказала, што няма ніводнага калгасу, які-б ня меў больш на некалькі цэнтнераў таго ці іншага збожжа. Дрэнна толькі тое, што гэта праверка праходзіла і праходзіць надта марудна. Ня ўсе арганізацыі ўдзельнічалі ў ёй, асабліва прафсаюзныя. І толькі дзякуючы правільнаму кіраўніцтву і ўмела пастаўленай рабоце райкому партыі гэта задача разьвязана з посьпехам.

Вызначаныя па пляне веснавой пасеўнай кампаніі лічбы засыпкі насеннага фонду (5610 *цнт.*) і страхавога (835 *цнт*) аказаліся зусім рэальнымі і ўжо гэтае насеньне засыпана, асабліва па збожжавых культурах. Так, па пляне калгасамі павінна быць засыпана насеньня аўса 2867 *цнт*, а засыпана па 20 амаль самым драбнейшым калгасам—1350 *цнт*, ад астатніх калгасаў (а іх у раёне 43), брыгадзіры, якія выехалі рабіць праверку, зьвестак яшчэ не даслалі, бо прыходзіцца зараз працаваць ва ўмовах разводзьдзя, а раён вялікі і ёсьць шмат забалочаных мясцовасьцяй. Страхавы фонд амаль выканан поўнасьцю толькі гэтымі 20 калгасамі,—заданьне—835 *цнт*, выканана—782 *цнт*. Такое ж становішча і з астатнімі збожжавымі культурамі.

Зараз, калі партыяй і ўрадам пастаўлена задача аб поўным забесьпячэньні насеньнем усёй пасеўнай плошчы, якая вызначана плянам, як пад збожжавыя, так і тэхнічныя культуры—Любаньшчынай ня цалкам выканана. Калі насеньня збожжавых культур мы маем лішкі, дык з тэхнічнымі справа стаіць не на сваёй вышыні. Па пляне калгасы павінны былі

мець насеньня канаплі 1.390 *цнт*, а сабрана ўсяго толькі 43,55 *цнт*. Таксама і з вікай. Тут насенкантора пусьціла справу на самацёк, ня ўлічыўшы таго, што ў гэтай справе павінна і яна граць вялікую ролю. Дрэнна пастаўлена справа і са зборам бульбы на насеньне. Па пляне райкалгассаюзу калгасы павінны сабраць насеннага фонду бульбы 57.439 *цнт*, а сабрана 13.652 *цнт*. На гэту справу раённыя арганізацыі павінны зьвярнуць максымум увагі, бо па пляну райкалгассаюза намечана шырока разгарнуць камплектаваньне сьвінагадоўчых таварных фэрм.

Нарыхтаванае насеньне павінна быць падпарадкавана асноўным прынцыпам агратэхнікі—ачысьціць і пратруціць. „Кожнаму калгасу засеяць чыстагатунковым насеньнем",—такую задачу паставіла перад сабою Любаньшчына. Яна за яе змагаецца, яна яе і выконвае. Ачыстка насеньня па калгасах ужо скончана і прыступілі да абмену на чыстагатунковае насеньне. У райкалгассаюзе ёсьць заяўкі ад кожнага калгасу на патрэбную колькасьць для абмену таго ці іншага насеньня і распачата падрыхтоўка да пратручваньня, а Любаньшчыне з гэтым трэба пасьпяшацца, бо тут глебы супяшчаныя і пачатак веснавых работ будзе раней, чым у другіх раёнах.

Недапушчальна марудна ідзе работа з падрыхтоўкай глебы да высокіх ураджаяў, з унясеньнем у глебу патрэбных спажыўных матэрый. Па маючыхся зьвестках у райкалгассаюзе загатоўлена попелу ўсяго толькі каля 15 проц. заданьня, а таксама ня зьвернута належнай увагі на зімовую вывазку гною на поле, у выніку чаго ўвесь цяжар прыпадзе на вясеньні час, што з посьпехам можна было выканаць узімку. Гэта справа пушчана па лініі найменшага супору. Глеба Любаньшчыны патрабуе шмат угнаеньня, асабліва мінэральнага. Для Любаньшчыны мінэральныя ўгнаеньні—гэта не падмена недастаючых натуральных угнаеньняў, а папаўненьне, дача адпаведных спажыўных матэрый пад адпаведныя расьліны. Глеба Любаньшчыны багата аднабаковымі спажыўнымі матэрыямі,—яна ў сваёй масе забалочаная. Здаецца, раённым арганізацыям, ведаючым асаблівасьці глебы раёну і, ведаючы, што яна патрабуе вялікай колькасьці мінэральных угнаеньняў, патрэбна было і зьвярнуць асаблівую ўвагу на завоз іх, каб забясьпечыць цалкам сацыялістычны сэктар патрэбнай колькасьцю розных відаў угнаеньняў. Аднак, малюнак зусім няспрыяючы, запраектавана завезьці ў раён 1.318 тон розных відаў мінэральных угнаеньняў, а завезена на 5 красавіка ўсяго толькі 121,4 тоны. Гэта проста недаацэнка справы падняцьця ўраджайнасьці нашых сацыялістычных палёў.

Стопроцантная падрыхтоўка да веснавой сяўбы, максымальна скароціць тэрмін сяўбы. Гэтыя прарывы, маючыя вялікае значэньне, павінны быць ліквідаваны зараз-жа. Партыйным і камсамольскім ячэйкам яшчэ з большай клясавай пільнасьцю трэба сачыць за ходам падрыхтоўкі і правядзеньня веснавой сяўбы. Спробам клясавага ворага—кулака, падкулачніка і правых і „левых" апартуністаў зьвесьці справу падрыхтоўкі і правядзеньня веснавой сяўбы да нявер'я ў магчымасьці справіцца з такой вялікай задачай у максымальна кароткі час, як веснавая пасеўная кампанія—патрэбна даць апошні руйнуючы ўдар.

Аб тым, што працоўныя Любаньшчыны пад непасрэдным кіраўніцтвам камуністычнай партыі пасьпяхова вядуць барацьбу з клясавым ворагам, сьведчыць тое, што 11 красавіка некаторыя, больш падрыхтаваныя калгасы вышлі ў поле. Гэта ня факт абумоўленасьці прыроды, а факт бальшавіцкай падрыхтаванасьці да пачатку веснавой сяўбы.

Усе сілы на пасьпяховае правядзеньне 3-й бальшавіцкай вясны. Па ўдарнаму працаваць, па ўдарнаму ў максымальна кароткі тэрмін закончыць сяўбу.

Такава задача партыйных, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый, задача калгасных мас і беднякоў і серадняков—аднаасобнікаў.

**К. Р.**



Тав. Су-дзі-дзі прэміяваны ўдарнік кітайскага нацыянальнага калгасу рамантуе сельскагаспадарчы інвэнтар (Віцебск. раён).

# Давесьці пасеўныя пляны да кожнага калгасьніка

(*Мазырскі раён*)

Калгас „Чырвоны Барэц", В.-Аўцюкоўскага сельсавету, стаў у рады перадавых калгасаў раёну па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. Ударная праца калгасьнікаў на аснове сацспаборніцтва, якое было разгорнута паміж брыгадамі па рамонту інвэнтару і збруі, ачыстцы насеньня, ссыпцы насенных і страхавых фондаў і складаньні спэцыяльных кармовых фондаў—дапамагла падрыхтавацца да веснавой сяўбы. Створаны кармовы фонд, які забраніраван да сяўбы.

Разам з гэтым патрэбна адзначыць дрэнныя бакі ў працы калгасаў. Яшчэ не прымацаваны да кожнай брыгады цягавая сіла і сельскагаспадарчы інвэнтар, ня выдзелены пэўныя вучасткі і не замацаваны брыгады за імі, не распрацавалі норм зьдзельшчыны.

Гэтыя факты адставаньня па некаторых вучастках работы калгасу „Чырвоны Барэц" павінны мабілізаваць актыў калгасу на ліквідацыю прарываў, каб веснавую сяўбу правесьці ў максымальна кароткі тэрмін з стопроцантным выкананьнем пляну вясеньняй пасяўной кампаніі.

Сельскі савет і партячэйка павінны больш цікавіцца работай калгасу.

**Кузьмянок і Зайцаў.**

# ПАСЕЯЛІ ЎЖО РАНЬНІЯ КУЛЬТУРЫ

*(Полацкі раён)*

Камуна №-скай дывізіі, Ветрынскага сельсавету адна з мацнейшых арганізацый сацыялістычных гаспадарак у раёне дзейнасьці Ветрынскай МТС.

Камуна мае пасеўную плошчу ў 1932 г. 612 *га*, з якіх бульба, тэхкультуры і кармовыя травы займаюць значнае месца, бо глеба камуны спрыяе разьвіцьцю гэтых культур. Падрыхтоўчыя работы да веснавой сяўбы камунары разгарнулі своечасова.

Сталярная і кавальская майстэрні яшчэ ў першай палове сакавіка месяца скончылі рамонт інвэнтара, дзякуючы ўдарнай працы майстэрань, унядрэньню сацспаборніцтва і г. д. Зараз майстэрні канчаюць рамонт транспарту камуны. Другая, праробленая камунарамі ня менш важная работа—гэта падрыхтоўка насеньня. Камуне патрэбна ўсяго зернавых каля 300 *цнт*, тэхнічных каля 100 *цнт* і бульбы 1.095 *цнт*. Своечасовая праца па збору і засыпцы насенных фондаў і яго ахова адыграла вялікую ролю; патрэбную колькасьць насеньня камуна часткова знайшла на месцы, часткова дабыла ў іншых арганізацыях і вызначаныя плошчы будуць поўнасьцю забясьпечаны насеньнем.

Для пасьпяховага правядзеньня веснавой сяўбы праўленьне камуны пад кіраўніцтвам аграному МТС т. Якубенкі распрацавала севазварот камуны і склала сталыя вытворчыя брыгады: дзьве па паляводзтву і 1 па жывёлагадоўлі. Да кожнай брыгады прымацавана пэўная колькасьць інвэнтару і рабочай жывёлы, ліквідавана абязьлічка, кожнаму камунару даведзена яго вытворчае заданьне і нормы выпрацоўкі.

Камуна ў гэтым годзе значна пашырае МТФ — з маючыхся 203 галоў кароў і 142 галоў маладняка камунары прынялі плян — давесьці да канца году да 250 галоў кароў і 258 галоў маладняка, з умовай выкананьня пляну здачы дзяржаве таварнай прадукцыі.

Камуна першай у раёне прыступіла да веснавой сяўбы і зараз пасеяны ўсе раньнія культуры: канюшына пасеяна яшчэ ў пачатку першых дзён красавіка.

Значную ролю ў правядзеньні 3-й бальшавіцкай вясны павінна адыграць насьценгазэта камуны, якая састраўды зьяўляецца арганізатарам сацспаборніцтва і ўдарніцтва на палёх. Партарганізацыі камуны неабходна разгарнуць працу з селькорамі ў час баявой кампаніі сяўбы.

Адстаючыя калгасы Ветрынскага сельсавету павінны вучыцца ў камунараў.

**Л. Сьмелы.**

# ДРЫСЕНСКАЯ МТС ПАДРЫХТАВАНАЙ ВЫСТУПІЛА Ў ПОЛЕ

**„У веснавой сяўбе МТС павінна паставіць у цэнтр сваёй увагі барацьбу за якасьць сельска-гаспадарчай вытворчасьці і арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў. Работу МТС партыя будзе ацэньваць па выніках ураджайнасьці і павышэньні таварнасьці калгасаў, якія імі абслугоўваюцца, па выкананьні гэтымі калгасамі ўсіх сваіх абавязкаў перад пралетарскай дзяржавай“** (*З пастановы пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б*).



**Тав. Язьвінскі** — мэханік сел.-гаспадарчай майстэрні, Дрысенскай МТС. За ўдарную работу некалькі разоў прэміяваны.

Пад яго непасрэдным кіраўніцтвам 26 сакавіка рабочыя майстэрні скончылі рамонт трактароў МТС-аўскага парку.





**Тав. Рожык** — загадчык сел.-гаспадарчай майстэрні, Дрысенскай МТС—ударнік. За ўдарныя тэмпы работы тав. Рожык прэміяваўся некалькі разоў.

Дзякуючы ўмелай арганізацыі працы з боку тав. Рожыка, Дрысенская МТС 26 сакавіка скончыла рамонт свайго трактарнага парку з высокай якасьцю рамонта.

# ПЕРАДПАСЕЎНАЯ АПРАЦОЎКА ГЛЕБЫ ПАД ЛЁН

Першым прыёмам апрацоўкі глебы пад лён у вясеньні час,—гэта выехаць у поле, як мага раней з баронамі „Ліна“ альбо „зіг-заг“ і ўзрыхліць самы паверхоўны пласт ворыва ў мэтах захаваньня вільгаці глебы. Усьлед за гэтым, перад пасевам патрэбна ўзрыхліць глебу на глыбіню 6—8 *см* рознымі арудзьдзямі: лушчыльнікамі, дыскавымі баронамі, або лапчатымі культыватарамі. На моцна засьмечаных глебах рыхленьне праводзіць адвальнымі лушчыльнікамі, пшанічнымі плугамі і інш.

З прыёмам рыхленьня дыскавымі баронамі, лушчыльнікамі абавязкова патрэбна злучыць і працэс раўненьня бараной „Ліна“ або „зіг-заг“, для канчатковай апрацоўкі глебы і для пасеву на ёй лёну радковым спосабам. Выключэньні з гэтага могуць быць рыхлыя песчаныя глебы, на якіх магчыма абмежавацца толькі адным баранаваньнем без дыскаваньня.

На новых землях, пасьля раскарчовак і ачысткі, вясной ня трэба баранаваць баронамі „Ліна“, або „зіг-заг“, адразу прыступіць да дыскаваньня. Для больш лепшай апрацоўкі дзёрна патрэбна правесьці з пачатку дыскавымі баронамі з гладкімі дыскамі, а потым баронаю з вырэзнымі дыскамі. Разам в апошнім праездам дыскаў, у адзін прыцэп з ім, правесьці раўненьне баронаю „зіг-заг“. Перад дыскаваньнем, на глебах пасьля раскарчовак, патрэбна з пачатку выраўняць плошчу чыгуннай або драўлянай валакушай, сабраць выцягнутыя драўляныя рэшткі і толькі потым пусьціць дыскі.

Па апрацоўцы глебы пад другарадныя культуры іньняного севазвароту неабходна заўважыць наступнае: 1) пасьля ўборкі бульбы, поле на зяб ня ўзорваецца; 2) у занятых папарах жыта высяваецца пасьля хуткасьпелых культур — ячменю, вікі на сена і інш. і падрыхтоўка да пасеву жыта складаецца з лушчэньня і ворыва з раўненьнем бараной „зіг-заг“.

## Угнаеньне глебы ў Ільняных севазваротах

Глебы ільняна-малочнай зоны БССР і іншых ільнаводных раёнаў СССР ападзолены, слаба структурны і маюць вялікі недахоп харчавых матэрый для атрыманьня максымальнага ўраджаю лёну. Гэты недахоп па зводкам Навуковага Інстытуту па ўгнаеньням для асноўных трох харчавых элемэнтаў вызначаецца так: па азоту ў глебе маюцца запасы толькі для ўраджаю на 49 проц. ад максымальнага, па фосфару на 80 проц. і па калію на 93 проц.

На больш бедных падзолістых глебах запас харчавых матэрый, яшчэ больш зьменшан, а асабліва па азоцістаму харчаваньню. На пясчаных глебах у мінімуме знаходзяцца ўсе тры харчавыя элемэнты: азот, калій і фосфар; але на другім месцы тут стаіць ня фосфар, а калій, пасьля азоту. Значыць, для атрыманьня высокіх ураджаяў, неабходна ўносіць усе тры ўгнаеньні, дабіваючыся найбольшай роўнаважнасьці паміж асноўнымі харчовымі элемэнтамі.

Лён вельмі чулы да зьмены рэакцыі глебы. Ён любіць слаба-падкісьленую глебу, але моцна зьніжае ўраджай, калі кіслотнасьць гэта павялічваецца. Такім чынам, ападзоленыя, моцна кіслыя глебы ня будуць спрыяючымі для атрыманьня высокіх ураджаяў лёну. Для зьнішчэньня гэтай кіслотнасьці глебы патрэбна абавязкова вапнаваць глебу ў сыстэме Ільнянога севазвароту. Неабходна абавязкова таксама на падзолістых, слаба структурныя глебы ўносіць і арганічныя ўгнаеньні: гной, торф, кампост, зялёнае ўгнаеньне і інш.

Арганічныя ўгнаеньні, акрамя таго, што павялічваюць запас харчавых матэрый, яны і паляпшаюць фізычныя ўласьцівасьці глебы, будуюць, сумесна з вапнай і каранёвай сыстэмай шматгадовых траў, у сыстэме ільнянога севазвароту, структурнасьць глебы, або найлепшыя фізычныя яе ўласьцівасьці.

Вось чаму, для карэннага палепшаньня становішча глебы, для ўзьняцьця яе пладародзьдзя, патрэбна ў сыстэме ільнянога севазвароту праводзіць тры асноўныя мерапрыемствы: 1) унясеньне штучных угнаеньняў; 2) унясеньне арганічных угнаеньняў; 3) вапнаваньне кіслых падзолістых глеб.

Асноўныя тры групы харчовых матэрый: азоцістыя, фосфарна-кіслыя і калійныя — ахопліваюць розныя формы гэтых угнаеньняў.

Розныя формы розьняцца паміж сабой: працантам утрыманьня харчовых элемэнтаў, іх росчынай у вадзе і іншымі фізыка-хэмічнымі ўласьцівасьцямі. Улічваючы гэта, цяжка расчыняемыя ўгнаеньні, як фасфарытная мука, касьцяная мука, тамашляк, — патрэбна ўносіць на кіслыя глебы, або з кіслымі ўгнаеньнямі, як серна-кіслы амоній і інш., а па нэйтральных глебах, або пасьля вапнаваньня, карыстацца супэрфасфатам або прэцыпітатам. Такія ўгнаеньні, як прэцыпітат, сільваніт магчыма ўносіць у глебу рана вясной, або восеньню, апошні лепш уносіць восеньню.

Штучныя ўгнаеньні патрэбна зьмешваць паміж сабой толькі па асобным правілам. Так, сернакіслы амоній, нельга зьмешваць з іншымі ўгнаеньнямі, дзе маецца вапна; прыкладна, нельга зьмешваць з вапнай цыан-амід кальцыя, нарвэскай салетрай. Цыан-амід кальцыя нельга зьмешваць з аміячнымі солямі і супэрфасфатам, а апошні не дапускае зьмешваньня з угнаеньнямі, дзе маецца кальцый. Тамашляк нельга зьмешваць з супэрфасфатам і серна-кіслым амоніем.

З арганічных угнаеньняў патрэбна сацыялістычным ільнаводчым гаспадаркам шырока карыстацца: гноем, кампостамі, торфам, зялёнымі ўгнаеньнямі і скарыстаць мясцовыя адкіды. Гной і інш. арганічныя матэрыі патрэбна ў ільняным севазвароце ўносіць пад збожжавыя, або абсыпныя і сочныя культуры. Пасьля ўгноеных збожжавых культур патрэбна рабіць і падсеў траў.

## Тэрміны, спосабы і гушчыня высеву лёну

Найлепшым тэрмінам высеву лёну будзе—раньні. Пры высеве лёну рана вясной ураджай атрымоўваецца значна вышэйшы ў параўнаньні з ураджаем позьняга высеву.

Вось даныя, якія паказваюць перавагі раньняга высеву лёну: б. Маскоўская Дасьледчая ільняная станцыя, у сярэднім за 10 гадоў, атрымала прыбаўку ўраджаю лёну ад раньніх высеваў (13 мая), па валакну на—1,18 *цнт з га*, па насеньню на—0,74 *цнт*, а якасьць павысілася на 2 нумары, у параўнаньні з пазьнейшым высевам (22 мая).

Пскоўская Дасьледчая станцыя за 5 гадоў атрымала сярэднія даныя прыбаўкі: па валакну на—1,74 *цнт*, па насеньню на — 0,43 *цнт з га*, пры высеве 6 мая ў параўнаньні з высевам 16 мая, а ў параўнаньні з позьнім высевам — 4—8 чэрвеня, ўраджай раньняга сева стаіць яшчэ вышэй.

б. Віцебская Дасьледчая станцыя атрымала прыкладна такія-ж даныя за 1929—30 г.

Рана высеяны лён хутчэй убіраецца з поля і ў лепшых умовах праходзіць сушка, уборка і мочка саломы. Усё гэта і складае аграмаднейшыя перавагі раньніх тэрмінаў сяўбы лёну.

Найлепшымі нормамі высеву патрэбна лічыць,—у сярэднім 120 — 130 *кг на га* гаспадарча-годнага насеньня. Высеў у 120—130 *кг* на *га*, у параўнаньні з рэдкімі высевамі ў 65—80 *кг* ураджай павялічвае на 20—25 проц. На бедных глебах, з недахопам вільгаці, паказаную сярэднюю норму высева магчыма паменшыць да 100—120 *кг на га*, а на глебах, з лішкам азоцістага ўгнаеньня да 100—110 *кг на га*. Пры радковым спосабе высева паказаныя нормы зьмяншаюцца на 10—15 проц.

Лепшым спосабам высева будзе—высеў радковай сеялкай з звужанымі сашнікамі, або дыскамі ня шырэй 10 *см*, а пры адсутнічаньні такіх сеялак магчыма скарыстаць і звычайныя сеялкі з паміжрадзьдзямі ня больш 12—13 *см*. На новых землях і пасьля канюшынішча лепш карыстацца дыскавай сеялкай.

Пры адсутнасьці ў гаспадарцы радковых сеялак патрэбна скарыстаць раскідныя і забараноўваць насеньне ня глыбей 3—*см*. На цяжкіх і вільготных глебах ня глыбей 1—2 *см*.

**А. Караткевіч.**

## Павысіць ураджайнасьць канапель ня менш, як на 15 проц.

У БССР у гэтую веснавую сельскагаспадарчую кампанію павінна быць засеяна ня менш 40000 *га* плошчы каноплямі. Згодна пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 10 студзеня г. г., ураджайнасьць канапель павінна быць павялічана ня менш як на 15 проц. Мы яшчэ атрымліваем вельмі малы ўраджай, у той час як некаторыя капіталістычныя краіны атрымліваюць у тры разы большы ўраджай, чым мы.

Перад намі пастаўлена баявая задача — шляхам правядзеньня ўсіх агратэхнічных мерапрыемстваў, шляхам увядзеньня правільнага севазвароту—дабіцца павышэньня ўраджайнасьці канапель у саўгасах і калгасах.

### Што патрабуе каноплі ад клімату і глебы

Каноплі, як і ўсе іншыя расьліны, для свайго росту патрабуюць шмат цяпла, сонца і вільгаці. Умовы БССР спрыяюць росту канапель. У нас, пры правільным вядзеньні канапляводнай гаспадаркі, магчыма дабіцца высокіх ураджаяў. Глебавыя ўмовы для росту павінны быць добрыя, гэта значыць, што глеба павінна мець шмат спажыўных матэрый. Калі ў глебе будзе мала спажыўных матэрый, то каноплі будзе даваць нізкія ўраджаі. З прычыны таго, што карэньні канапель глыбока разьмяшчаюцца ў глебе, таму глеба павінна глыбока заворвацца і быць маккаю. Дрэнна расьце каноплі на глебах цяжкіх глiністых. На цяжкіх глiністых глебах часта пасьля пасеву, зьяўляецца скарынка, якая шкодна адбіваецца на ўсходжасьці канапель, а па-другое — у такой глебе вельмі дрэнна растуць карэньні канапель. Таксама дрэннымі глебамі для канапель будуць пясчаныя, у якіх мала спажыўных матэрый.

Самымі добрымі глебамі ў нас будуць сугліністыя, якія маюць шмат спажыўных матэрый. Але на гэтай глебе не павінен быць застой вады, які каноплі не пераносіць. Таксама ў нас, у БССР вялікую ролю адыгрывае ў справе атрыманьня высокага ўраджаю канапель—пасеў іх на глебах тарфяных, якіх у нас ёсьць вялікая колькасьць. Тарфяныя глебы, на якіх вытвараецца пасеў канапель, павінны быць добра асушаны. Грунтавая вада на тарфяных глебах павінна паднімацца ня вышэй 100 сант. да паверхні глебы. Пры скарыстаньні пад каноплі тарфяніка, яго патрэбна належным чынам падрыхтаваць: лепш узараць і пасеяць віка-аўсяную мешаніну, а потым на другі або трэці год пасеяць каноплю. Арганічныя матэрыі змогуць за гэты час растварыцца і накапіць у глебе шмат спажыўных матэрый, патрэбных для росту канапель.

Асабліва шмат бяруць каноплі для свайго росту азоту. Месца, дзе сеюцца каноплі павінна быць захавана ад вятроў, таму што на адкрытым месцы вецер часта ламае каноплі і гэтым самым прыносіць вялікую страту. Месца для каноплі павінна быць нізкае.

### Пасьля якіх расьлін лепш сеяць каноплі

Каноплі лепш сеяць пасьля бабовых расьлін як канюшына, лубін. Пасьля іх у глебе застаецца шмат азоту, якога каноплі бярэ ў вялікай колькасьці. Напрыклад, каноплі пасеяная пасьля канюшыны давала ўраджай насеньня 10,6 *цнт з га*, а пасьля збожжавых 7,5 *цнт*, у севазвароце каноплі павінна займаць ня менш 30 проц. усёй пасеўнай плошчы.

### Добрае насеньне дае добры ўраджай

Каб атрымаць добры ўраджай канапель трэба поле засеяць добрым насеньнем. Добрае насеньне мае зеленавата-белы колер, салодкі смак. Калі насеньне лёгкае на вагу, мае чорны колер, дык такім насеньнем лепш не высяваць. Добрае насеньне павінна мець добрую вагу. Так, напрыклад, у 18—20 грам. насеньня, калі яно добрае, налічваецца да 1000 штук зернят. Ня трэба гнацца за вельмі буйным насеньнем, бо яно ў большасьці бывае пустым. Лепш браць сярэдняе, важкае насеньне. Ня раіцца браць і надта дробнае насеньне, таму што ў ім мала спажыўных матэрый і расьліна вырастае слабою. Такія расьліны хутка гінуць ад замаразкаў.

Для атрыманьня добрага насеньня пасеў канапель трэба ўтвараць рэдка. Пры такім пасеве расьліны

добра разьвіваюцца і даюць добрае насеньне. Таксама на якасьць насеньня робіць уплыў і яго захаваньне. Пры захаваньні насеньне канапель павінна быць рассыпана тонкім пластом у сухім памяшканьні і некалькі разоў у месяц перамешвацца. Ня трэба захоўваць насеньне ў вялікіх кучах, таму што яно гарачае і траціць сваю ўсходжасьць.

### Навуку—на службу павышэньня ўраджайнасьці канапель

Вялікую ролю ў павышэньні ўраджайнасьці канапель адыгрывае тэрмін пасеву. Каноплі трэба высяваць тады, калі глеба добра сагрэта сонцам (да 10° С). У нашых умовах часам сяўбы магчыма лічыць сярэдзіну мая месяца. Высяваць каноплі трэба радавым пасевам—радковаю сеялкаю. Пры такім пасеве мы ў глебе раўнамерна раскідваем насеньне. Акрамя таго—пры радавым пасеве насеньне пападае ў добрыя ўмовы ў сэнсе вільгаці.

Магчыма пасеў канапель утвараць таксама і раскідным спосабам. Але раскідны спосаб мае шмат недахопаў таму, што мы раўнамерна не раскідаем насеньне, у адным месцы густа, у другім рэдка, таксама насеньне заворваецца не на адну глыбіню. Вынікам гэтага мы маем нераўнамерны рост, а таксама і пасьпяваньне, што адбіваецца на ўраджай канапель.

Вынікі, атрыманыя ад пастаноўкі досьледаў некаторымі нашымі станцыямі гавораць аб тым, што пры радковым пасеве ўраджай насеньня канапель быў 2,9 *цнт* з *га*, валакна 6,2 *цнт*, у той час, як пры раскідным спосабе атрымлівалася насеньня 2,4 *цнт* і валакна, 5,7 *цнт*. Глебавыя ўмовы былі адны і тыя, догляд таксама аднолькавы. Вось чаму кожны калгас і саўгас навінен утвараць пасеў выключна радковымі сеялкамі.

Пры пасеве канапель кожны саўгас і калгас павінен загадзя вырашыць для якой мэты ён засявае каноплі—для атрыманьня найбольш валакна, ці насеньня. Гэта важна таму, што пры высеве на валакно каноплі сеюцца густа, а на насеньне — рэдка.

Колькасьць насеньня пры раскідным спосабе пасеву ад 125 да 135 *кгр* на *га*, а пры радковым—ад 90 да 120 *кгр*. Лепшай нормай пры пасеве радковай сеялкай зьяўляецца 120 *кгр* на *га*.

Аграном **А. Маркавец**.

# ЯК ПАДВОІЦЬ, ПАТРОІЦЬ УРАДЖАЙ БУЛЬБЫ

Бульбе сярод прадуктаў харчаваньня належыць адно з важнейшых месц. Акрамя таго, у цеснай залежнасьці ад наліччa пасеву бульбы ў севазвароце знаходзяцца разьмеры ўраджая збожжавых культур.

Бульбе зьвернута вялікая ўвага ў агульна-пасеўным пляне Саюзу на 1932 год. У 1932 г. плошча пад бульбаю расшыраецца да 6 мільёнаў 900 тыс. *га* супроць мінулагодніх 5 мільёнаў 8 тысяч *га*, прычым пераважная частка пасеваў сканцэнтравана ў сацыялістычным сэктары.

Для нас, аднак, важна ня толькі пашырыць плошчу пад бульбаю, але і максымальна павысіць яе ўраджайнасьць. На жаль, па ўраджайнасьці бульбы мы апярэдзілі толькі паўночную Амэрыку, але, сярод краін Эўропы займаем адно з апошніх месц. Так, у 1925 годзе, які быў найбольш спрыяючым для бульбяной гаспадаркі сярэдні ўраджай бульбы з *га* раўняўся ў СССР 97 *цнт* супроць ураджаю ў Паўночнай Амэрыцы—70,4 *цнт*, Галяндыі—191 *цнт*, Бэльгіі—187, Англіі—149 і Германіі—148,5 *цнт*.

Мы маем цяпер усе магчымасьці дабіцца ў нас, у СССР ураджаяў бульбы ня толькі ня меншых, але нават большых, чым у Заходня-Эўропэйскіх краінах. Яскравым доказам гэтаму служаць вынікі вырашчваньня бульбы на фэрме б. Ціміразеўскай Акадэміі пад маім непасрэдным кіраўніцтвам.

Да пачатку досьледаў сярэдні ўраджай бульбы за 10 гадоў раўняўся на фэрме 76 *цнт* з *га*. У першы-ж год пастаноўкі досьледаў ураджай дасягнуў ужо 125 *цнт*. Няўхільна падвышаўся ўраджай і ў наступныя гады, дайшоўшы праз 5 год да 289 *цнт*. Нават у 1921 годзе, калі мы мелі засуху ўраджай бульбы з га дасягнуў 312 *цнт*. Найбольш высокі ўраджай быў дасягнуты ў 1923 г.—319 *цнт*.

Нам могуць супярэчыць, што такія высокія ўраджаі магчымы толькі на невялікіх дасьледчых дзялянках па некалькі квадратных мэтраў і лічбы атрыманыя шляхам пераліку на *га*. Гэта—няправільна, так як плошча пад бульбаю на фэрме складала штогодна ка 9—10 *га*. Ураджай з невялікай плошчай (0,5 *га*) мы даводзілі да 396 *цнт*. Такім чынам ураджай на фэрме б. Ціміразеўскай Акадэміі быў у два разы вышэй, чым ураджаі бульбы лепшых замежных гаспадарак.

Гэтыя досьледы гавораць аб тым, што ў нашай чарназёмнай паласе ўраджай бульбы можна павысіць супроць існуючага ў некалькі разоў.

Што абумовіла высокія ўраджаі бульбы, атрыманыя фэрмай?

Першае і асноўнае правіла пры пасеве бульбы—гэта дастатковы пласт пульхнай, добра ўгноенай зямлі над клубнем і пад ім.

Пасадка бульбы пад плуг, калі клубні бульбы кладуцца на дно ці ў адкос баразны не дае дастатковага пласта пульхнай зямлі пад клубнямі, а так, як нашы паўночныя глебы маюць вельмі цьвёрдую падглебу, то карэньне клубня ня можа пранікнуць глыбока ў падглебныя пласты. Акрамя таго пры клубнай пасадцы паверхня поля бывае роўная, дрэнна праграваецца і пасьля вялікіх дажджоў хутка заплывае.

Мы ў сябе на фэрме карэнным чынам зьмянілі гэты мэтад пасадкі бульбы, выпрацаваўшы **свой спосаб упаўне прымянімы ў нечарназемнай паласе**.

Бульба садзілася па роўнай паверхні пад маркер (метчык), у квадрат. Гэтым самым захоўваецца галоўная ўмова высокай ураджайнасьці бульбы: клубні зьверху і зьнізу абгорнуты пульхнай зямлёй, прычым кожны куст бульбы расьце на пэўнай плошчы, не перашкаджаючы суседнім расьлінам.

**Тэхніка пасадкі бульбы такая.** Вывозіць і заворваць гной лепш з восені, ці ў крайнім выпадку зімой па сьнягу ці рана вясной, прычым раскі-

даецца гной зараз-жа пасьля сходу сьнегу. Акрамя гною пад бульбу раіцца ўносіць супэрфасфат, але ня кожны год, у колькасьці ад 2—3 *цнт* на *га*. Калі няма супэрфасфата часамі ўносіцца звычайны попел—ад 5—6 *цнт* на *га*. Ворыва пачынаецца зараз жа як толькі зямля абсохне на столькі, каб можна было пачынаць палявыя работы. Вясною гной заворваецца на поўную глыбіню, а калі ён быў унесены з восені, то поле да пасадкі абавязкова павінна быць пераворана на поўную глыбіню. Пасьля ворыва поле барануецца ў 2—3 сьляды, затым прыкрываецца і маркіруецца крыж-на-крыж. На места перасячэньня кладзецца па аднаму клубню пры ўмове, калі клубні сярэдняй ці больш сярэдняй велічыні. Калі ж клубні дробныя—па 2 клубні. Пасьля пасадкі клубні засыпаюцца акучнікам на глыбіню 6—7 *см* так, што поле прымае грабністы выгляд, дзякуючы якому на палёх ня бывае застоя вады, загніваньня бульбы ад лішняй вільготнасьці; акрамя таго грэбнявая пасадка ня спрые разьвіцьцю сарнякоў.

**Маркер** раіцца пабудаваць так, каб клубень ад клубмя знаходзіўся на адлегласьці прыкладна ў 66 *см*, прычым для правільнасьці квадрата пасеву лініі маркера павінны быць простымі і перасякацца пад простым кутом. Такая адлегласьць дазваляе ўбіраць ураджай бульбакапалкамі пры дапамозе трактароў ці коняй.

Ад правільнай пасадкі бульбы залежыць далейшы правільны ўход за ею: малейшае невыкананьне паказаных правіл пасадкі, вядзе да таго, што пры абгонцы міжрадзьдзяў кожны няправільны пасаджаны куст будзе вывернуты і загіне. Пры пасадцы пад маркер пасьля зьяўленьня ўсходаў міжрадзьдзя праворваюць коннымі матыгамі крыж-на-крыж, а затым акучваюцца у адным напрамку адзін ці два разы за лета.

Трэцяе акучваньне вытвараецца толькі ў тым выпадку, калі пасьля другога акучваньня праходзяць вялікія дажджы. За кожным акучнікам павінен ісьці чалавек, які папраўляе зьвернутыя кусты і вырывае сарнякі, што знаходзяцца каля бульбяных кустоў.

Аграмадны ўплыў на ўраджай бульбы робіць правільнае разьмяшчэньне яго ў севазвароце. Досьледы нашай фэрмы паказалі, што бульба ў севазвароце пасьля азімага жыта павышала ўраджай на некалькі дзесяткаў *цнт* на *га*.

Лепшым папярэднікам для бульбы ў севазвароце ўне чарназёмнай паласы трэба лічыць розныя мешанкі і азімыя пасевы так, як гэтыя расьліны аслабаняюць рана поле, што дазваляе сваячасова ўгнаіць і ўзараць зямлю пад бульбу.

Вялікую ролю ў павышэньні ўраджайнасьці мае і падбор адпаведных ураджайных гатункаў.

Для пасадкі ў паўночнай нечарназёмнай паласе трэба браць клубні большыя курынага яйка, высаджваючы на кожны *га* ад 18 да 20 *цнт*.

Так, на фэрме б. Ціміразеўскай Акадэміі нам удалося павысіць ураджай бульбы з 76 да 319 *цнт*, больш чым у чатыры разы. Але гэту лічбу ўраджая нельга лічыць абмежаванай, бо некаторыя гады, як мы бачылі вышэй, давалі нават 396 *цнт*, у той час, калі апрацоўка глебы, пасеў і ўход за расьлінамі на фэрме ня былі зусім ідэальнымі. З пасадкай бульбы прыходзілася запозьнівацца, акучваньне і праполка вытвараліся не заўсёды сваячасова. Гной вывозіўся вясной і часта нядобраякасны—саломісты, штучныя тукі ўносіліся ня кожны год і параўнаўча ў невялікай колькасьці. Пры правільнай пасадцы, пры добрай якасьці насеннага матар'ялу, пры дастатковым угнаеньні і добрым доглядзе можна разьлічваць на ўраджай бульбы, напрыклад, ва ўмовах Маскоўскай вобласьці да 450 *цнт* з *га*.

Што датычыцца чорназёмнай паласы Украіны і больш засушлівых раёнаў, то і тут бульбу трэба саджаць пад маркер, але пасьля пасадкі яе, поле павінна мець роўны выгляд. У засушлівых раёнах ня трэба рабіць акучваньне. Трэба толькі пухліць міжрадзьдзе праполачнікамі з тым, каб поле ад пасадкі да ўборкі ўвесь час мела роўную паверхню. Гэта захавае пасевы бульбы ад лішняга выпарваньня вільгаці, бо гладкая паверхня выпарвае яе менш, чым грабністая.

У буйных спэцыялізаваных саўгасах і калгасах неабходна мэханізацыя ўсіх вытворчых працэсаў па культуры бульбы. Самы працаёмкі пэрыяд у бульбяной гаспадарцы—гэта пасадка ў ручную. Вынайдзеныя бульбасаджалкі нажаль працуюць зусім добра толькі на лёгкіх пяшчаных і супяшчаных глебах. На глiністых-жа і сугліністых глебах бульбасаджалкі астаўляюць масу незасыпанай бульбы і частыя пропускі, якія вельмі адбіваюцца на выніках ураджаю. Галоўны-ж недахоп бульбасаджалак заключаецца ў тым, што яны разьмяркоўваюць клубні толькі ў адным напрамку і на рознай адлегласьці адзін ад другога. Нашы бульбасаджалкі не дазваляюць весьці апрацоўкі крыж-на-крыж і адводзяць кожнаму кустку роўную плошчу для харчаваньня. Найлепшай бульбасаджалкай трэба лічыць такую, якая б добра працавала на розных глебах і з рознай велічынёй клубняў, саджаючы іх крыж-на-крыж з мясцовым унясеньнем угнаеньня пад кожны клубень. Заняцца канструкцыяй такой бульбасаджалкі—важнейшая задача ВІМЭ.

**Праф. ХАРЧЭНКА.**

# Вырошчваньне раньняй бульбы

Лёгкі клімат і супесчаныя глебы БССР спрыяюць вядзеньню бульбы. Таму плошча пад бульбу ў нас значна большая, чым у іншых частках саюзу. Але з разьвядзеньнем бульбы трэба адзначыць, што калгасы і саўгасы ў большасьці разводзяць гатункі позьняй бульбы і менш скарасьпелай. У сучасны момант, калі ў БССР маецца шмат прамысловых цэнтраў, шмат гарадзкога насельніцтва, якое з кожным годам павялічваецца, таму вялікая ўвага павінна быць зьвернута на пашырэньне плошчы пад скарасьпелыя гатункі раньняй бульбы. Ураджай раньняй бульбы мы павінны атрымоўваць у пачатку жніўня і ў канцы ліпеня месяца.

На вырошчваньне раньняй бульбы асаблівая ўвага павінна быць зьвернута прыгараднымі сацыялістычнымі гаспадаркамі. Каб атрымаць добры ўраджай і ў вышэй паказаны тэрмін мы павінны высяваць гатункам, якія ва ўмовах БССР дае высокі ўраджай. Таксама вялікую ролю ў справе атрыманьня высокага ўраджаю бульбы адыгрывае правільная апра-

цоўка глебы. Праз правільную апрацоўку глебы, пасеў добрым гатункам, унясеньнем мінэральных угнаеньняў і правядзеньнем іншых агратэхнічных мерапрыемстваў, — мы зможам атрымаць высокі ўраджай бульбы.

### Які гатунак высяваць

Вялікую ролю ў справе атрыманьня як мага хутчэй ураджаю адыгрывае гатунак самой бульбы. Для высьпяваньня бульба патрабуе ад 3,5 да 4 месяцаў.

Для ўмоў БССР лепшымі гатункамі зьяўляюцца раньняя Роза, Эпікур, а таксама і красуня Гэброна. Раньняя Роза і красуня Гэброна ў нас значна распаўсюджаны. Менш у калгасах і саўгасах сустракаецца раньні гатунак бульбы Эпікур. Раньняя Роза і красуня Гэброна па сваёй пасьпяваемасьці вельмі схожы між сабою. Гэтыя гатункі бульбы маюць тыя дадатныя бакі, што даюць высокія ўраджаі, але дрэнна тое, што гэтыя абодва гатункі вельмі загніваюць у полі і пры захаваньні. Каб менш гэтыя гатункі загнівалі — іх ляпей высяваць на глебах больш лёгкіх. На цяжкіх гліністых глебах яны больш загніваюць і прападаюць. Каб разьлічыць знадворна гэтыя абодва гатункі трэба ведаць наступнае: Раньняя Роза мае сьветла-ружовы колер, а красуня Гэброна белы, з плямамі сьветла ружовага колеру.

### На якім полі высяваць

Бульбу раньніх гатункаў ляпей высяваць у папаровым кліне, на якім мяркуецца засеў азімага жыта ці пшаніцы. Акрамя папаравага кліна раньнюю бульбу магчыма высяваць і ў яравым кліне. Пасьля зьняцьця ўраджаю ў яравым кліне бульбы поле можна яшчэ заняць віка-аўсянай мешанінай. Таксама трэба застанавіцца на падрыхтоўцы самага поля, на якім будзе вырошчвацца бульба. Поле ўвосень трэба глыбока і добра заараць. Гэта робіцца таму, што праз асеньнюю заворку ў глебе накапляецца шмат спажыўных матэрый, патрэбных для росту бульбы. Разам з веснавой заворкай мы павінны ўносіць у глебу і гной. Ня трэба ўносіць гной раньняй вясной пад бульбу. Ад сьвежага гною бульба хварэе паршаю, ад якой атрымоўваецца меншы ўраджай.

### Якое браць насеньне

Таксама вялікую ролю ў справе падняцьця ўраджайнасьці бульбы адыгрывае якасьць высяваемага насеньня. Самым лепшым насенным бульбяным фондам будзе такі, бульбіны якога маюць велічыню з курынае яйцо. Ня трэба высяваць дробнай бульбы. Дробная бульба мае ў сабе мала спажыўных матэрый, патрэбных для першага росту расьліны. Ад малой колькасьці спажыўных матэрый вырастае слабая расьліна, якая не дае добрага ўраджаю, Так сама не патрэбна браць і надта вялікай бульбы, таму, што на 1 *га* плошчы ідзе яе надта шмат. Калі-ж у калгасе ці саўгасе няма патрэбнай колькасьці бульбы пэўнай велічыні для засеву плошчы, а ёсьць толькі вялікай велічыні, тады яе трэба ўдоўж разрэзаць за некалькі дзён да пасеву і ссыпаць у цёплае памяшканьне. Пры такіх умовах разрэзаныя месцы пакрыюцца скураю, ад чаго бульба ў глебе ня будзе хутка загніваць. Трэба памятаць, што разрэзваньне бульбы трэба рабіць толькі ў крайніх выпадках, калі няма патрэбнага насеннага фонду.

Для хутчэйшага пасьпяваньня бульбы ў полі, перад пасевам робяць прарошчваньне апошняй. Для гэтага бульбу тонкім пластом за тыдні 3—4 рассыпаюць у цёплым сьветлым памяшканьні. Ад цяплыні і сьвятла расткі абуджаюцца. Прарошчваньне ня трэба рабіць у цёмным памяшканьні. Ад гэтага расткі выцягваюцца, пры пасадцы ломяцца. Пры першым спосабе мы атрымоўваем моцныя, тоўстыя парасткі, якія пры пасадцы ня так хутка ломяцца. Тоўсты, моцны парастак пры пасадцы дае ў глебе пучок густых карэньчыкаў, а таксама і лісткоў. Ад такой прарошчанай бульбы перад пасевам мы атрымоўваем хутчэй ураджай. Але прарошчваньне бульбы робіцца тады, калі мы мяркуем раньнюю ўборку ўраджаю. Прарошчаная бульба дае ў два з лішнім разы большы ўраджай у параўнаньні з непрарошчанай бульбай.

Магчыма яшчэ замест прарошчваньня рабіць праяльваньне бульбы. Праяльваньне бульбы заключаецца ў тым, што расткі пры гэтым спосабе ўсьпяваюць толькі паказацца. Праяльваньне робіцца так, як і прарошчваньне, толькі розьніца ў тым, што бульба рассыпаецца больш тоўстым пластом і за некалькі дзён да пасеву ў параўнаньні з прарошчанай.

### Як робіцца пасадка

Пасадка бульбы раньніх гатункаў мала адрозьніваецца ад гатункаў пасадкі позьняй бульбы. У залежнасьці ад надвор'я, пасадку бульбы магчыма пачынаць у пачатку мая месяца. На глебах лёгкіх пасадку бульбы ляпей рабіць пад плуг. Пры пасадцы бульбу трэба лажыць з боку баразны і расткамі ўгару. Пасадку бульбы магчыма рабіць пад маркер з заворкай плугам.

**А. М.**

## РАДКОВАЯ СЕЯЛКА І ЯК ЁЮ КАРЫСТАЦЦА

### Як пабудавана сеялка

Радковая сеялка (мал. 1) складаецца з скрынкі, куды засыпаецца зерня, высявальных прыбораў, зубчатай перадачы, насенаправодаў, сашнікоў з рэгулюючымі прыстасаваньнямі і перадка.

На дне скрынкі, для засыпкі насеньня, знаходзяцца дзіркі, праз якія насеньне праходзіць у скрыначкі высявальных прыбораў.



Мал. 1.

Высявальны апарат у зернавых сеялках, які выпрабляецца на нашых заводах — катушачны, сыстэмы Гуз'ера і складаецца з катушкі з падоўжнымі жалабкамі і муфты (мал. 2).

Катушкі і муфты сядзяць на валу, які праходзіць праз мэталічныя насенныя скрынкі, прымацаваныя да дна скрынкі. Такім чынам, катушкі разьмешчаны ўнутры скрыначак і ўваходзяць у іх часткова, або поўнасьцю, шляхам перасоўваньня ўправа або ўлева спэцыяльнага рычага. Замест катушкі, пры яе высоўваньні з скрыначкі, туды ўкладаецца муфта, якая застаецца нярухомай пры руху вала. Такім поўным або частковым перамяшчэньнем высявальнай катушкі ўнутры скрыначкі дасягаецца зьмена ў колькасьці высеву насеньня. Жалабкі катушкі пры руху вала захапляюць насеньне, якое пападае туды з скрынкі і роўнамерна высяваецца праз асобныя дзіркі насенаправода.

Вал з катушкай прыводзіцца ў рух ад хадавога кола сеялкі зубчатай перадачай. Зубчатая перадача складаецца з 3-х трубак (гл. мал. 1); першая—на ходавым коле, другая — на перадатачным рычазе, а трэцяя—на высявальным вале.

Насенаправоды—мэталічныя або гумовыя трубкі, па якіх насеньне з высявальнага апарату пападае на ральлю.

Сашнікі сеялкі служаць для стварэньня баразды пасеву. Большасьць нашых сеялак маюць або анкерныя руска-амэрыканскія сашнікі, або дыскавыя.

Глыбіня ходу сашнікоў мяняецца шляхам зьмены іх нахільным рычажным прыстасаваньнем. Пры пад'ёме сашнікоў рычагом, зубчатая перадача расчапляецца і высеў насеньня спыняецца. Пры апусканьні—праца высявальнага прыбору застанаўліваецца.

## Устаноўка шырыні міжрадкоў

Шырыня міжрадкоў дасягаецца перасоўваньнем сашнікоў. Для гэтага неабходна адпусьціць балты, якімі прымацоўваецца павадок сашніка да пярэдняга бруса (мал. 3) і кліны, якія прымацоўваюць вілкі, націскаючыя на пружыны, да рычажнага бруска.

Для ўстаноўкі сашнікоў да сеялкі прыкладаецца дошка—разьмеркавацель, на якой нанесен рад рысак з цыфрамі. Цыфры паказваюць колькасьць сашнікоў сеялкі. Дошка кладзецца пад сеялку так, каб яе сярэдзіна была пад сярэдзінай сеялкі.

Сашнікі растаўляюцца, пачынаючы з сярэдзіны, на адпаведныя рыскі аднолькавай адлегласьці, пасьля чаго балты і кліны зноў замацоўваюцца.



Мал.2.

## Устаноўка на колькасьць высеву

Раней чым прыступіць да пасеву, неабходна ўстанавіць сеялку на тую колькасьць насеньня, якая патрабуецца ў залежнасьці ад роду насеньня, глебавых і кліматычных умоў.

Устаноўка на высеў робіцца шляхам устаноўкі рэгулятара высявальных прыбораў, якія знаходзяцца на заднім баку скрынкі, на адпаведную лічбу цыфэрблята. Апроч устаноўкі рычага высеву, неабходна яшчэ правільна ўстанавіць зубчатую перадачу, якой дасягаецца ніжні высеў, або пераход насеньня пад шпулькай, для сярэдняга насеньня (шпулькі круцяцца ў адзін бок з ходавым колам), або верхні высеў для буйнага насеньня: гарох, боб (шпулькі круцяцца ў процілеглы бок ад руху ходавага кола і насеньне праходзіць над шпулькай). Устаноўка зубчатай перадачы дасягаецца зьменай зубчатак.



Мал. 3.

Калі, якія і куды ставіць зубчаткі — трэба кіравацца інструкцыяй, якая прыклеена да ўнутранога боку крышкі скрынкі.

Пры ніжнім высеве (акрамя аўса) засаўка, якая ёсьць за кожнай шпулькай, павінна быць паўадчынена. Пры верхнім высеве і пры высеве аўса, засаўкі павінны быць адчынены. Засаўкі гэтыя рэгулююць, або зусім спыняюць прыток зерня ў шпулькі і яны зачыняюцца пры пераезьдзе з месца на месца, калі ў скрынцы знаходзіцца насеньне, або калі частка сашнікоў вынята з сеялкі.

У сувязі з тым, што вага адзінкі аб'ёмку зерня залежыць ад яго вільготнасьці і інш. умоў, неабходна перад пасевам праверыць колькасьць высеву, якая паказваецца на цыфэрблаце.

## Праверка высеву

Праверка робіцца наступным чынам:

Пад сеялку трэба падкласьці брэзэнт і падняць на падстаўку гарызантальна, каб ходавае кола можна было вольна круціць, паставіць рэгулятар на лічбу, якая паказвае неабходную колькасьць высеву і спусьціць сашнікі рычагом. Круціць кола неабходна з тэй хуткасьцю, з якой яно круціцца ў полі.

Кола неабходна круціць столькі разоў, колькі яно павернецца на сталай частцы гектара. Напрыклад, колькасьць высеву на *га* 130 *кг* (жыта або пшаніцы). На $^1/_{25}$ *га*, або на $\frac{10.000}{25} = 400$ кв. *м*, неабходна высеяць $\frac{130}{25} = 5{,}2$ *кг*.

Колькасьць абаротаў кола, якую неабходна зрабіць на $\frac{1}{25}$ *га* (400 кв. *м*) можна вызначыць пры дзяленьні 400 кв. *м* на плошчу засеву пры адным абароце кола. Напрыклад, 19-радковая сашніковая сеялка мае рабочы захоп у 238 *см*, даўжыня акружыны кола—390 *см*.

Калі лічба адхіляецца ад патрэбнай (больш чым на 4 проц.), дык рычаг высеву трошкі перасоўваецца і зноў робяць праверку, пакуль розьніца між фактычным высевам і патрэбным будзе ня болей 4 пр. Для таго, каб сеялка не давала абсеву—неабходна ўстанавіць правільную адлегласьць паміж коламі перадка і накіраваць кола перадка па сьляду задняга кола папярэдняга ходу.

Адлегласьць паміж перадком павінна раўняцца захопу сеялкі мінус адлегласьць паміж заднімі коламі.

Аграном Т. Марон.

# Арганізацыя і праца вучэбнай брыгады завочнікаў

## (ТЭМА ЧАЦЬВЕРТАЯ)

Брыгадны мэтад прапрацоўкі заданьняў не зьяўляецца прыналежнасьцю толькі завочнікаў. Гэты мэтод ужываецца ва ўсіх стацыянарных навучальных установах. Напрыклад, у Ленінградзкім электрамэханічным інстытуце студэнтам даецца пісьмовае заданьне (тэма) з мэтадычнымі паказаньнямі, кантрольнымі пытаньнямі, з зазначэньнем старонак падручнікаў і задачамі, якія трэба прапрацаваць згодна заданьня. Прапрацоўка праводзіцца наступным парадкам: 1. Уводная гутарка выкладчыка з усімі брыгадамі; 2. Індывідуальная (самастойная) прапрацоўка заданьня кожным студэнтам; 3. Кансультацыя з боку выкладчыка; 4. Брыгаднае абгаварэньне заданьня; 5. Заключная канфэрэнцыя.

Прапрацоўка прадмету студэнтамі Ленінградзкага мэталюргічнага інстытуту складаецца з наступных зьвеньняў: 1. Уводная гутарка выкладчыка, якая займае да 14 проц. ад усяго часу, патрэбнага на прапрацоўку заданьняў; 2. Індывідуальная (самастойная) прапрацоўка заданьняў студэнтамі—ад 60 да 70 проц. часу; 3. Прапрацоўка заданьня ў брыгадзе—каля 15 проц. часу; 4. Брыгадная здача заданьня выкладчыку—каля 16 проц. часу.

Такім-жа парадкам праводзяцца заняткі ўва ўсіх іншых ВНУ і тэхнікумах.

Мы прывялі гэтыя прыклады для таго, каб параўнаць іх з завочным навучаньнем, каб паказаць што і завочнае навучаньне ў асноўным праводзіцца такім-жа парадкам.

Брыгаднае навучаньне заключаецца ў тым, што пасьля таго, як паасобныя сябры брыгады прапрацавалі заданьне ў індывідуальным парадку, найбольш складаныя яго часткі прапрацоўваюць калектыўна. Брыгадны мэтад навучаньня забясьпечвае лепшую прапрацоўку матар'ялу, падвышае актыўнасьць завочніка, узмацняе адказнасьць за вучобу перад грамадзкасьцю, садзейнічае больш шырокаму разгортваньню сацспаборніцтва і ўдарніцтва, дазваляе лепшае скарыстаньне мясцовых агратэхнічных сіл.

На брыгадных занятках лягчэй і хутчэй усвойваецца вывучаемае пытаньне: адзін другому дапамагае, адзін другога правярае і дапаўняе. Такія, напрыклад, дысцыпліны, як замежныя мовы, найбольш пасьпяхова вывучаюцца толькі пры калектыўных занятках. Пляnaваньне вучобы, кантроль, улік пасьпяховасьці лепш усяго ажыцьцяўляецца ў брыгадзе.

Арганізацыйныя пытаньні (памяшканьне для заняткаў, яго абсталяваньне, радыёфікацыя і інш.)—таксама лепш вырашаюцца ў брыгадзе чым паасобку.

### Арганізацыя брыгады

Для забесьпячэньня пасьпяховасьці працы брыгады неабходна прытрымлівацца наступнага: а) склад брыгады павінен быць па мажлівасьці аднародны, як у сэнсе папярэдняй падрыхтоўкі, так і па пасьпяховасьці і вытворчай кваліфікацыі; б) камплектуецца брыгада выключна па прынцыпу дабраахвотнасьці; в) колькасны склад брыгады павінен быць невялікім—ад 3 да 10 асоб, навучаючыхся па аднэй галіне, або прапрацоўваючых аднолькавыя дысцыпліны. Пры ігнараваньні гэтых асноўных арганізацыйных момантаў брыгада ня будзе жыцьцёвай.

З складу брыгады небходна абраць брыгадзіра. Яго абавязкі наступныя: а) складаньне, сумесна з кансультантам і сябрамі брыгады, календарнага пляну заняткаў і кіраўніцтва па выкананьні гэтага пляну; б) удзел у арганізацыі і абсталяваньні кансультацыйнага пункту; в) устанаўленьне сталай сувязі з сэктарам, кансультацыйным пунктам, партыйнымі, камсамольскімі і прафсаюзнымі арганізацыямі і інфармацыя іх аб рабоце брыгады; г) сваячасовае атрыманьне ад сэктароў вучэбных матар'ялаў, рэцэнзій, кансультацый: ад каапэратыву—паперы і іншых прыладаў для сяброў брыгады; д) атрыманьне ад сяброў брыгады--пісьмовых работ і адсылка іх у завочны сэктар, е) склікаsuccessful і правядзеньне сходаў сяброў брыгады; ж) арганізацыя сацспаборніцтва і ўдарніцтва сярод сяброў брыгады, паверка і вучот вынікаў сацспаборніцтва і ўдарніцтва; з) вучот наведваньня заняткаў і пасьпяховасьці кожнага сябра брыгады.

Наступныя моманты, ад якіх залежыць посьпех працы брыгады—гэта пляnаваньне і ўлік працы. Выходзячы з каляндарнага пляну, які даецца завочным сэктарам на прапрацоўку заданьня (дысцыпліны курсу)—брыгада павінна пабудаваць расклад заняткаў такім чынам, каб у вызначаны тэрмін працу выканаць.

Брыгадныя заняткі зьяўляюцца завяршэньнем індывідуальнай прапрацоўкі заданьня. Таму да заняткаў давядзецца зьбірацца раз у некалькі дзён, напрыклад, адзін раз у пяцідзёнку. Гэтае пытаньне трэба вырашыць на мясцох. Для заняткаў брыгады трэба вызначыць пэўныя дні і гадзіны.

Праца брыгады абавязкова павінна ўлічвацца. Улік павінен ахапіць—колькасныя і якасныя паказчыкі працы: склад брыгады, зьмены ў складзе брыгады, прычыны гэтых зьмен, выкананьне пляну, наведваньне брыгадных заняткаў паасобнымі таварышамі, актыўнасьць і пасьпяховасьць, мэтады работы (даклад, гутарка, чытка), удзел у рацыяналізацыі сельскагаспадарчай вытворчасьці, сацспаборніцтва ўдарніцтва і г. д. На першы час можна ўжываць досыць простую форму ўліку—форму пратаколаў (дзёньнікаў). На першай старонцы сшытку трэба зрабіць сьпіс усіх сяброў брыгады і некалькі граф для адметак аб наведваньні заняткаў. Далейшыя старонкі адводзяцца для пратаколаў. У кожным пратаколе неабходна ў сьціслай форме адзначыць: дату, колькасьць прысутнічаўшых, тэму для прапрацоўкі, прозьвішча дакладчыка, кансультанта, выступленьні ў спрэчках з кароткай характарыстыкай выступленьняў, вынікі прапрацоўкі тэмы, нявырашаныя пытаньні і інш. Пратаколы пэрыядычна (раз у 1—2 месяцы) накіроўваюцца ў завочны сэктар.

Трэба рашуча змагацца з абязьлічкай у брыгадзе. Для гэтага асноўную ўвагу трэба зьвярнуць на ўлік працы і пасьпяховасьць кожнага завочніка паасобку. Толькі пры гэтай умове брыгада зможа сваячасова дапамагчы адстаючым і наогул даць пасьпяховыя вынікі працы.

Найлепшым месцам для брыгадных заняткаў зьяўляецца памяшканьне кансультацыйнага пункту. Калі кансультацыйнага пункту няма—брыгада павінна паставіць пытаньне перад адміністрацыяй гаспадаркі аб арганізацыі яго. Кансультацыйны пункт павінен быць належным чынам абсталяваны (літаратура, прылады і г. д.) і ўкамплектаваны кансультантамі. Неадлучнай часткай усякага кансультацыйнага пункту павінна зьяўляцца радыё (гучнагаварыцель).

Брыгада і кожны ў асобку завочнік, павінны шырока скарыстоўваць радыё, якое зьяўляецца дапаможным сродкам пры прапрацоўцы заданьняў. Радыёперадача, як найбольш жывая форма выкладаньня, палягчае вывучэньне і ўсвойваньне навучальнага друкаванага матар'ялу, радыёперадачы шмат у чым замяняюць для завочнікаў непасрэднае кіраўніцтва вучобай. Па радыё перадаюцца тлумачэньні тых заданьняў, якія разасланы завочнікам, чытаюцца даклады па бягучай палітыцы, па мэтодыцы разумовай працы, праводзяцца радыёканфэрэнцыі, зазначаюцца і паясьняюцца асноўныя вузлавыя пытаньні курсу. Каляндарныя пляны радыёперадач для завочнікаў БССР пэрыядычна зьмяшчаюцца ў газэце „Савецкая Беларусь".

### Мэтады працы брыгады

Асноўнай умовай посьпеху працы брыгады зьяўляецца папярэдняя індывідуальная прапрацоўка заданьня кожным завочнікам. Ні ў якім разе брыгада не замяняе самастойных індывідуальных заняткаў,—яна дапаўняе, паглыбляе іх, уздымае на вышэйшую ступень і таму на заняткі ў брыгаду трэба ісьці ўжо прапрацаваўшы заданьне, трэба ісьці з пэўнымі, нявырашанымі самастойна, запытаньнямі.

Каб не раскідвацца і ня траціць дарэмна часу—брыгадзір, ці хто з сяброў брыгады (па даручэньні) павінен кіраваць правядзеньнем заняткаў, як гэта робіцца пры правядзеньні сходаў і паседжаньняў.

Кожны сябр брыгады ставіць на абгаварэньне тыя пытаньні, якія ў яго засталіся нявырашанымі. Пры чым трэба дакладна фармуляваць, як невырашанае, так і спосабы, якімі вырашалася гэтае пытаньне, бо, магчыма, памылка якраз і хаваецца ў няправільным падыходзе да вырашэньня. Пасьля гэтага даецца слова жадаючым выказацца адносна пастаўленага на абгаварэньне пытаньня. Па высьвятленьні першага пытаньня пераходзяць да другога, да трэцяга і г. д. Нявырашаныя пытаньні пераносяцца на абгаварэньне сумесна з кансультантам (як правіла кансультант павінен прысутнічаць на ўсіх занятках брыгады). Пры адсутнасьці кансультанта, з нявырашанымі на брыгадных занятках пытаньнямі, брыгада зварочваецца ў завочны сэктар.

Такім жа парадкам можна абгаварваць пытаньні „для самаправеркі і „кантрольныя пытаньні", якія маюцца ў кожным заданьні. Сябру брыгады даецца 3—4 пытаньні, на якія ён павінен даць падрабязныя і вычэрпваючыя адказы. Калі таварыш памыляецца, яго папраўляюць астатнія таварышы.

У далейшым неабходна перайсьці ды сыстэмы дакладаў. Тэмай дакладу зьяўляецца чарговае заданьне. Дакладчык вылучаецца на кожным папярэднім паседжаньні (занятках) брыгады. Лепш усяго па аднэй і тэй жа тэме вылучыць 2—3-х дакладчыкаў.

Дакладчыкі не павінны абмяжоўвацца толькі матар'ялам заданьня, а павінны прыцягнуць матар'ял з вытворчасьці, з газэт і інш. На даклад адводзіцца ня больш 45—60 хвілін (калі 3 дакладчыкі, дык кожнаму па 15—20 хвілін). Вядома, што і ўсе астатнія таварышы павінны прапрацаваць гэтую тэму, павінны падрыхтавацца да абгаварэньня дакладу.

Такія даклады надзвычай многа даюць. Яны прывучаюць сьцісла і выразна выказваць свае думкі, навучаюць крытычна адносіцца да матар'ялу. Даклады павінны рабіцца ў вуснай форме, а не зачытвацца па напісанаму. Для таго, каб даклад быў больш задавальняючым, трэба складаць плян дакладу (асноўныя пытаньні, разьмешчаныя ў пэўным парадку), або нават тэзісы (сьціслая фармулёўка думак дакладчыка па асноўных пытаньнях).

Пасьля дакладаў, запытаньняў і адказаў на запытаньні—пераходзяць да спрэчак. Трэба даць мажлівасьць выказацца кожнаму. Пасьля спрэчак даецца заключнае слова дакладчыку.

Канчатковыя вынікі (рэзюмэ) падводзяцца кансультантам. Кансультант павінен даць усебаковую ацэнку, як мэтадаў прапрацоўкі, так і зьместу самага дакладу і выступленьняў паасобных таварышоў.

У час спрэчак кансультант не павінен даваць гатовых вывадаў—яго задача дапамагчы завочнікам зрабіць самім гэтыя вывады. Калі якое пытаньне, у працэсе абгаварэньня стала яскравым для ўсіх,—кансультант павінен падкрэсьліць правільнасьць вырашэньня і дапамагчы сфармуляваць яго найбольш выразна і зразумела.

Кожныя заняткі павінны канчацца абгаварэньнем тых мерапрыемстваў, якія неабходна правесьці ў вытворчасьці і грамадзка-палітычнай працы, на падставе распрацаванай тэмы.

**В. Крэйдзіч.**

# ПЛЯНАВАНЬНЕ АЦЁЛАЎ

Дробная аднаасобная гаспадарка не магла і ня можа плянава арганізаваць сваю вытворчасьць наогул і ў прыватнасьці, унесьці плянавасьць у такі важнейшы момант вытворчай дзейнасьці ў галіне жывёлагадоўлі, як прыпуск жывёлы і ацёл кароў.

Наадварот, буйная сацыялістычная гаспадарка мае ўсе неабходныя для гэтага ўмовы, і яе безадкладнай задачай зьяўляецца, як мага хутчэй скарыстаць маючыяся ўмовы для плянавай арганізацыі ацёлаў на працягу году.

Аднак не ва ўсіх яшчэ калгасах і нават малочных калгасных таварных фэрмах да самага апошнягага часу скарыстаны маючыяся ўмовы для пля-

наваньня ацёлаў. Яшчэ пануе самацёк у гэтай важнейшай справе, яшчэ не надана належная ўвага ёй з боку кіраўнікоў калгаснай вытворчасьці і ня прыцягнута шырокая калгасная грамадзкасьць.

Тады, калі такі перажытак дробнай аднаасобнай гаспадаркі, як сэзоннасьць ацёлаў, мае вялікія недахопы:

1) не дае магчымасьці забясьпечыць раўнамернае паступленьне таварнага малака і малочных прадуктаў для рабочага насельніцтва прамысловых цэнтраў на працягу ўсяго году;

2) зьяўляецца тормазам для правільнай арганізацыі працы даільшчыц і цялятніц на скотным двары, якая павінна быць арганізавана на падставе ўнядрэньня зьдзельшчыны. Як раз арганізацыя сталых спэцыялізаваных брыгад пры нераўнамерных ацёлах у гаспадарцы і нераўнамерным паступленьні валавой малочнай прадукцыі і цялят на мясцох сустракае цяжкасьці. Гэтыя цяжкасьці заключаюцца ў тым, што на працягу году даільшчыцы і цялятніцы павінны мець дадатковую нагрузку па іншаму віду работ, што супярэчыць спэцыялізацыі, альбо ўтвараецца перадача кароў, што зусім нельга дапушчаць, бо гэта супярэчыць асноўнаму прынцыпу правільнай арганізацыі працы—прынцыпу ліквідацыі абязьлічкі;

3) патрабуе большай колькасьці сродкаў на пабудову і прыстасаваньне такіх памяшканьняў для жывёлы, як цёплыя цялятнікі, ацёлачныя памяшканьні і г. д.;

4) перашкаджае правільнай бесьперабойнай рабоце на працягу году заводаў па перапрацоўцы малака. Калі таварнае малако паступае нераўнамерна на перапрацоўку на працягу ўсяго году, тады ў адны месяцы заводы будуць недагружаны, а іншыя месяцы перагружаны;

5) сэзоннае паступленьне ў перапрацоўку малака на заводы перашкаджае правільнаму скарыстоўваньню рабочае сілы ў гэтай галіне народнае гаспадаркі і падвышае выдаткі вытворчасьці;

6) пры нераўнамерным ацёле кароў гаспадарка вымушана трымаць большую колькасьць быкоў-вытворнікаў у статку, што ў сваю чаргу падвышае сабекоштоўнасьць вытворчасьці малака;

7) пры такой сэзоннасьці ацёлаў, калі асноўная маса кароў целіцца ў зімова-вясеньнія месяцы, гаспадарка атрымлівае адносна меншую колькасьць малака ад кожнай каровы за год; пры аднолькавых іншых умовах у параўнаньні з тым становішчам, калі статак кароў цяліўся-б раўнамерна на працягу ўсяго году.

Усе пералічаныя адмоўныя бакі сэзоннасьці ацёлаў зьмяняюцца станоўчымі момантамі пры ажыцьцяўленьні плянавых раўнамерных ацёлаў на працягу году, прычым гэтыя станоўчыя моманты ідуць па ўсім лініям вытворчасьці ў галіне жывёлагадоўлі.

Якія існуюць шляхі для плянавага пераводу статку кароў на раўнамерны ацёл?

Па-першае, плянаваньне ацёлаў патрабуе поўнага забесьпячэньня правільнага ручнога прыпуску жывёлы ў гаспадарцы з абавязковай паасобнай пасьбой быкоў.

Па-другое, плянаваньне ацёлаў немагчыма без сыстэматычнага ўтварэньня спэцыяльных запісаў прыпуску і ацёлу кароў. Форма такіх запісаў можа быць розная, у залежнасьці ад канкрэтных умоў гаспадаркі. Напрыклад, у спэцыялізаваных племянных гаспадарках, у якіх асноўнай мэтай ставіцца гадаваньне племяннной таварнай жывёлы для іншых гаспадарак,—такія запісы павінны быць больш падрабязныя ў параўнаньні з тымі гаспадаркамі, якія вытвараюць тую, ці іншую таварную прадукцыю жывёлы. Але асноўныя і галоўныя моманты, павінны адбівацца ва ўсякай форме запісаў прыпуску і ацёлу кароў. Утвораныя запісы абавязкова і неабходна захоўваць. Яны даюць магчымасьць ведаць час ацёлу тэй ці іншай каровы для таго, каб сваячасова перамясьціць яе ў асобнае памяшканьне, забясьпечыўшы асобны, адпаведны догляд за ёю.

Зразумела, што без утварэньня гэтых запісаў запомніць неабходныя зьвесткі вельмі цяжка, бо ў статках саўгасаў і калгасаў сотні і нават тысячы галоў жывёлы.

Для ўтварэньня пераводу ацёлу тэй ці іншай каровы на той месяц, у якім яна павінна цяліцца, згодна агульнага пляну пераводу ўсіх кароў статку на роўнамерны ацёл на працягу году—неабходна ведаць працягласьць цяжарнасьці і парадак адбываньня цечкі ў кароў.

Цечка ў кароў пасьля ацёлу адбываецца праз 17—28 дзён і калі карова не запладнілася, дык цечка паўтараецца зноў, прыкладна, праз 3—4 тыдні з больш ці менш дастатковай правільнасьцю.

Цяжарнасьць у кароў працягваецца 280—290 дзён, за выключэньнем больш шырокіх адхіленьняў ў паасобных выпадках. Такім чынам мы маем магчымасьць працягваць ці скарочваць пэрыяд часу паміж ацёлам і пачаткам цяжарнасьці ў тэй ці іншай каровы, так як гэта нам патрэбна; адсюль існуюць два спосабы пераводу ацёлу кароў:

1. Утварыць злучку каровы ў першую цечку пасьля ацёлу—гэта значыць, прыблізна, праз 3—4 тыдні.

2. Наадварот, мы можам прапусьціць дзьве або тры цечкі і пакрываць карову ў чацьвертую і нават у пятую цечку пасьлу ацёлу—гэта значыць, праз 2—3 і нават 4—5 месяцаў.

Першы спосаб лепшы ў тым сэнсе, што пры ім унікаем пакінуць карову ялаўкай, але ён зьяўляецца больш марудным, чым другі спосаб. Апрача таго, пры больш раньняй злучцы кароў, пасьля ацёлу наглядаецца некаторае паніжэньне ўдойлівасьці за пэрыяд лактацыі*).

Другі спосаб пераводу ацёлаў лепш першага ў тым сэнсе, што дае магчымасьць утвараць перасоўку ацёлаў у больш хуткі тэрмін, падвышае ўдойлівасьць кароў за час лактацыі, але пры карыстаньні ім маецца небясьпека пакінуць частку кароў ялаўкамі. Таму ў кожнай гаспадарцы, у залежнасьці ад канкрэтных асаблівасьцяй, неабходна і карыстацца першым або другім спосабам у справе плянаваньня ацёлаў кароў.

Для дапамогі ў найбольш хуткім вызначэньні таго, на які месяц будзе пераведзен ацёл каровы, калі яе пакрываць у розныя цечкі пасьля ацёлу прыводзім табліцу, складзеную Е. Л. Сініцкім. Гэтая табліца вельмі спрошчана і дае магчымасьць толькі прыблізнага вызначэньня таго часу, калі карова ацеліцца, у залежнасьці ад пакрыцьця яе ў тую ці іншую цечку пасьля ацёлу.

*) Лактацыйным пэрыядам у каровы называецца час яе даеньня паміж 2-ма ацёламі.

Але, ведаючы паказаныя тэрміны цяжарнасьці кароў і пачатак тэй ці іншай цечкі пасьля ацёлу ў кожным паасобным выпадку, зусім лёгка разьлічыць дакладна час будучага ацёлу каровы пры дапамове гэтай табліцы.

**Вызначэньне часу ацёлу каровы ў залежнасьці ад пакрыцьця яе ў тую ці іншую цечку**

| Калі ў гэтым годзе карова ацялілася ў сярэдз. | Лютага | Сакавіка | Красавіка | Мая | Чэрвеня | Ліпеня | Жніўня | Верасьня | Кастрычніка | Лістапада | Сьнежня | Студзеня |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| у 1 цечку | сьнежні | студзені | лютым | сакавіку | красавіку | маі | чэрвені | ліпені | жніўні | верасьні | кастрычн. | лістападу |
| „ 2 „ | студзені | лютым | сакавіку | красавіку | маі | чэрвені | ліпені | жніўні | верасьні | кастрычн. | лістападу | сьнежні |
| „ 3 „ | лютым | сакавіку | красавіку | маі | чэрвені | ліпені | жніўні | верасьні | кастрычн. | лістападу | сьнежні | студзені |
| „ 4 „ | сакавіку | красавіку | маі | чэрвені | ліпені | жніўні | верасьні | кастрычн. | лістападу | студзені | студзені | лютым |

Аграном **В. Круглоў.**

# Мерапрыемствы па падняцьці ўраджайнасьці старых садоў

Нашы старыя сады ў даны момант зьяўляюцца асноўным фондам для атрыманьня гатовай прадукцыі.

Пры цяперашнім стане, калі яны маюць вельмі нізкій ўраджаі, яны не даюць добрай таварнай прадукцыі. Сярэдняе выкарыстаньне прадукцыі пладоў у нас ня больш 50—60 проц. Выхад-жа таварнай прадукцыі першасортнага экспартнага тавара ўсяго толькі 2—5 проц.

Асноўнымі недахопамі шмат якіх пладовых садоў зьяўляецца: а) адсутнасьць рацыянальнага догляду за насаджаньнямі і глебай; б) масавае . разьвіцьцё хвароб і шкоднікаў; в) шматпароднасьць і шматгатунковасьць, часта з перавагаю малакаштоўнага асортымэнту; г) бяссыстэмнасьць ці няправільнасьць у разьмяшчэньні дрэваў на плошчы і, у прыватнасьці, загушчанасьць, а таксама ў некаторых выпадках рэдкая пасадка дрэў; д) часты не падбор адпаведнай глебы і падглебы; е) распыленасьць насаджэньняў.

Але мерапрыемствы па палепшаньні старых садоў часта зьвязаныя з вялікімі затратамі, будуць мець значэньне толькі ў выпадку эканамічнай эфэктыўнасьці. Таму і вызначэньне мерапрыемстваў можа быць толькі дастасоўна да асаблівасьцяй асобных насаджэньняў. У асноўным-жа да ліку канкрэтных мерапрыемстваў, накіраваных да самага насаджэньня ў сэнсе забесьпячэньня правільнага пладанашэньня дрэваў, павышэньня якасьці пладоў і ўраджайнасьці нашых садоў адносяцца:

а) паляпшэньне догляду за глебай; б) узмоцненая і сыстэматычная барацьба са шкоднікамі і хваробамі; в) прарэджваньне дрэваў у густа засаджаных насаджэньнях; г) прарэджваньне вельмі загушчаных крон; д) малажэньне крон, е) перапрышчэпка дрэваў; ж) пасадка дрэваў у прарэджаных насаджэньнях.

Нашы сады ў большасьці выпадкаў галадаюць. У нас няма правільнай арганізацыі ўгнаеньня пладовых і ягадных насаджэньняў нават у такіх гаспадарках, дзе пладаводзтва зьяўляецца асноўнай вядучай галінаю. Знаходзячыся шмат гадоў на адным месцы пладовыя культуры шмат бяруць спажыўных рэчаў з — моцна яе зьнясіляюць. Адсюль галаданьне садоў ёсьць галоўная прычына рэзкага падзеньня ўраджайнасьці, масавага вымярзаньня і захворваньня пладовых дрэў, а таксама іх выпадзеньня.

З ужываньнем угнаеньняў пад ягаднікі і, у прыватнасьці, пад агрэст, найбольш эфэктыўным зьяўляецца фосфарная кіслата.

Па даных Мысаўскай дасьледчай станцыі (Масква) прыбаўка ва ўраджаі ад ужываньня супэрфасфату складзе ў сярэднім за 3 гады 29 проц.

**Сярэдні ўраджай агрэсту з *га* ў *кг*.**

| | |
|---|---|
| Па гною 35 тон на *га* . . . . . . . . . | 1788 *кг* |
| „ „ 36 „ плюс 33 *кг* супэрф . | 2303 „ |

На аснове накопленага ў нас вялікага практычнага вопыту,—трэба лічыць эфэктыўным ужываньне ў садох гною.

З-за недахопу гною ў справе вырашэньня праблемы папаўненьня запасу спажыўных рэчаў у глебе для пладовых насаджэньняў, на адно з першых месц мы павінны высунуць—зялёныя пасеўныя запашкі ў злучэньні з мінэральнымі ўгнаеньнямі. Справа ў тым, што цэлая група бабовых расьлін, дзякуючы дзейнасьці знаходзячыхся на іх карэньнях спэцыяльных бактэрый—убірае азот з паветра і пераводзіць яго на ўсваяемую для расьлін форму. Гэтыя расьліны высяваюцца звычайна ў міжрадзьдзях садоў у канцы ліпеня—пачатку жніўня. Рост іх дапускаецца на працягу ўсёй восені і раньняй вясны, пасьля чаго яны заворваюцца ў глебу. Усю весну і лета, каб унікнуць сухменю, глеба ў садзе трымаецца пад чорным папарам.

Выгаднасьць зялёных запашак у тым, што з абагачэньнем глебы спажыўнымі матэрыямі адначасова, дзякуючы вялікай колькасьці заворваемай арганічнай зялёнай масы, паляпшаюцца і фізычныя ўласьцівасьці глебы (структура, вільгатаёмкасьць і інш.).

Пакроўнымі заворкамі пры правільным падборы і культуры зялёных расьлін, у глебу ўносіцца спажыўных матэрый столькі, колькі і ад 15—25 тон гною. Адсюль зусім відавочна, што з ужываньнем зялёных пакроўных заворак мы зможам у нашых саўгасных і калгасных садох хутка і рэзка падняць колькасьць і якасьць ураджаяў.

Ужываючы зялёныя пакроўныя заворкі з уключэньнем у іх гатунку азімага збожжа „Іванаўскага“, якое дае найбольшую зялёную масу, мы ў сябе на станцыі дасягнулі штагодных нармальных ураджаяў у старым садзе на працягу ўжо трох год падрад.

У нашых умовах у якасьці пакроўных расьлін могуць быць бабовыя расьліны: віка, лубін, гарох, канюшына аднагодняя (люцэрна і інш.), а з небабовых: жыта, гарчыца, грэчка, турнэпс і інш.

Сыстэматычная барацьба са шкоднікамі і хваробамі пладовых насаджэньняў—ёсьць вельмі важны фактар у павышэньні прадукцыйнасьці садоў, а таксама ў павышэньні таварнай якасьці пладоў, што мае асаблівае значэньне ў выкананьні экспартнага пляну. У нашых умовах рэгулярнасьць барацьбы выключна важна ў адносінах—пладажэркі, рабінавай тлі, пладовай гнілі, паршы, мучністай расы агрэсту, мазаічнай хваробы маліны і інш.

У раёнах экспартнага значэньня, а таксама ў сфэры пладаперапрацоўваючых прадпрыемстваў, калі такія маюць патрэбу ў спэцыяльных асартымэнтах,—малакаштоўныя гатункі належыць перапрышчапіць стандартнымі гатункамі. Перапрышчапіць трэба маладыя і сярэдня-ўзростныя зусім здаровыя і жыцьцяздольныя дрэвы. Гранічнымі перапрышчэпкі трэба лічыць для яблыні і грушы—30—35 год, сьлівы і вішні—10-15 год. У густа засаджаных насаджэньнях неабходна ўтварыць выкарчоўку часткі слабых, хворых дрэў, у мэтах прадстаўленьня астатнім здаровым дрэвам вольнага сьвятла і паветра.

Пасадка дрэваў зьяўляецца мэтазгоднай, калі разрэджанасьць не перавышае 30 проц. ад нармальнай пасадкі, а дрэвы яшчэ параўнальна маладыя і здаровыя, напрыклад, яблыні не старэй 25 год. Пры тым, як правіла, падсадку трэба весьці гатункамі, асабліва рана ўступаючымі ў пару пладанашэньня.

Дрэвы застарэўшыя, якія даюць слабы прырост, дробныя плады і ў якіх намячаецца адміраньне галін, падлягаюць абмалажэньню крон. Абмалажэньне трэба весьці ў парадку паступовага зьніжэньня кроны на працягу 2—3 год. Перад пачаткам гэтай работы глеба саду павінна быць прыведзена ў культурны стан.

**А. Сюбараў.**

# Аб мерапрыемствах па барацьбе з сьмяцьцёвымі расьлінамі

*(З пастановы Наркамзему БССР ад 23 сакавіка 1932 г.)*

Надаючы вялікае значэньне мерапрыемствам барацьбы з сьмяцьцёвымі расьлінамі і пустазельлем у справе падняцьця ўраджайнасьці, Калегія Народнага Камісарыяту Земляробства ў дадатак да вызначаных абавязковых мерапрыемстваў па барацьбе з засьмечаньнем палёў, паказаных у пастанове ад 16 лютага 1932 г. № 137 (зьмешчана ў газэце, „Савецкая Беларусь“ ад 3 III—30 г.).

**Пастанаўляе:**

1. Увесьці дастаткова, як абавязковае мерапрыемства ў саўгасах, МТС і калгасах:

а) поўную ачыстку і сартыроўку зерня ўсяго ўраджаю а таксама зерна-фуражных рэсурсаў, набываемых гаспадаркай у парадку снабжэньня;

б) выкарыстоўваць адыходы ад зерня на корм жывёлы выключна ў перамолатым, альбо запараным выглядзе;

в) пры ўборцы пасеваў не пакідаць ня скошаных зарасьляў сьмяцьцёвых расьлін і скашваньне іх утвараць да высьпяваньня іх насеньня да часу і ў час кветкаваньня;

г) зьбіраемыя сьмяцьцёвыя расьліны пасьля апрацоўкі глеб, ухода за пасевамі—прыбіраць з палёў для скарыстаньня на корм, альбо спаліваць на месцы.

2. Прапанаваць раённым Зямельным Аддзелам, выходзячы з мясцовых умоў, выдаць праз РВК абавязковую пастанову аб барацьбе з сьмяцьцёвымі расьлінамі і пустазельлем, з пералікам найбольш шкодных сьмяцьцёвых расьлін ва ўмовах раёну з паказаньнем канкрэтных мер барацьбы і тэрмінаў выкананьня работ па ачыстцы палёў і пасеваў ад сьмяцьцёвых расьлін і даслаць гэтыя пастановы да 1 мая Народнаму Камісарыяту Земляробства—Сэктару Тэхнічных і Зернавых Расьлін.

3. Абавязаць Трэст, Калгасцэнтр, Трактарацэнтр, уключыць у праграмы курсаў актыву калгасьнікаў, трактарыстаў, палявых рабочых і кіраўнікоў саўгасаў, выкладаньне мерапрыемстваў барацьбы з сьмяцьцёвымі расьлінамі і пустазельлем, а таксама пры распрацоўцы рабочых пляна ў саўгасах і калгасах абавязкова разам з іншымі агратэхмерапрыемствамі ўключыць мерапрыемствы па барацьбе з пустазельлем.

4 Выходзячы з пастановы Калегіі Народнага Камісарыясу Земляробства Саюза ад 10-II—32 г. (пратакол № 11), прапанаваць: Балотнаму Інстытуту, Ільняной Дасьледчай Станцыі, Збожжавай Сэлекцыйнай Станцыі, Турскай і Пладаавашчной, пачынаючы з 1932 г. разгарнуць дасьледчую працу па прыстасаваньні хэмічных і інш. мэтадаў барацьбы і далейшай мэханізацыі работ па ачыстцы палёў і насеннага матар'ялу, прадугледзеўшы гэту працу ў праграмах работ па расьлінагадоўлі, усклаўшы на сэктар НКЗ'ема па кіраўніцтву дасьледчымі ўстановамі кантроль за выкананьнем дасьледчымі ўстановамі гэтага даручэньня.

5. Даручыць Цэнтральнай Кантрольнай Насеннай Станцыі ўключыць ў праграмы свае дзейнасьці вывучэньне відавога складу сьмяцьцёвых расьлін, а таксама прапанаваць Беларускаму Аддзяленьню ВІНА ўключыць у сваю праграму дзейнасьці дачу экспэртызы, інспэктаваньне і вывучэньне зернаачышчальных машын, выходзячы з распаўсюджаньня сьмяцьцёвых расьлін ва ўмовах БССР.

6. Прапанаваць сэктару Агратэхпрапаганды на працягу II-га квартала 1932 г. забясьпечыць выданьне адпаведнай літаратуры (лістоўкі і інш.).

7. Абавязаць сэктар тэхнічных і зернавых расьлін, на падставе пакаваньняў Саюзнаркамзема, на працягу месячнага тэрміну распрацаваць інструкцыю па барацьбе з сьмяцьцёвымі расьлінамі, абавязаўшы ўсе занальныя дасьледчыя станцыі і Цэнтральную Кантрольную Насенную Станцыю—на працягу дэкады прадставіць сэктару тэхнічных і зернавых расьлін усе матар'ялы па досьледах з сьмяцьцёвымі расьлінамі, сьпісы асноўных сарнякоў і свае меркаваньні аб мерах барацьбы ў разрэзе відавога складу сьмяцьцёвых расьлін і, па магчымасьці, у разрэзе раёнаў іх распаўсюджваньня.

8. Абавязаць Трактарацэнтр безадкладна распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па арганізацыі зернаачышчальных пунктаў з наборам складаных машын пры кожнай МТС і ўжыць меры канцэнтрацыі зернаачышчальных машын і забясьпечыць поўную комплексную зернаачыстку насеньня ўсіх расьлін і асабліва насеньня гародных і караньплодаў, лугавых траў і палявых траў, лёну і бабовых расьлін.

Адказныя рэдактары: С. МІЦЬКОЎ.
Н. МІХАЙЛАЎ.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1003. 1.660 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—2






| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| На 12 мес. | —24 | нумары | 3 р. | |
| „ 6 „ | —12 | „ | 1 р. | 50 к. |
| „ 3 „ | 6 | „ | — | 75 к. |
| „ 1 „ | 2 | „ | — | 25 к. |

ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ НА ПОШТУ АЛЬБО ЛІСТАНОСЦЫ

Адрас рэдакцыі часопісу:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ